


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 42 (3258) Год LXIII Беласток, 21 кастрычніка 2018 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Моцы і немачы ўсходняга памежжа

Пра чарнарусаў, рэгіянальныя культуры і пагранічча з **Яўгенам Кабатцам** размаўляе Уля Шубзда.

**— Лічыце сябе чалавекам пагранічча — чарнарусам. Наколькі месца нараджэння — беларускі Ваўкавыск паўплываў на Ваш лёс?**

— Месца нараджэння безумоўна мае ўплыў на лёс чалавека. Я тут не надта арыгінальны. Рака Рось, у якой я вучыўся плаваць і лавіць рыбу, уліваецца ў Нёман, а з Нёманам ужо плыве да Чорнай і Белай Русі. Ваўкавыск для мяне заўсёды быў асаблівым месцам. Там фарміраваўся мой характар чалавека мяжы, там адкрываў я чарнарускія карані і культуру Ваўкавыскай зямлі ад Гродна па Навагрудак. Важны таксама той факт, што менавіта там, на мой дзень нараджэння, хоць некалькі стагоддзяў раней — 11 студзеня 1386 года — быў на замку падпісаны дакумент інкарпарацыі Літвы, падзея, якая змяніла ход гісторыі Польшчы. Гэтай падзеі я прысвяціў некалькі гадоў вучобы, што давяло мяне да напісання кніжкі, якая парушае афіцыйную польскую гістарыяграфію.

**— Натхніла Вас месца, якое Вам прыйшлося даволі рана пакінуць.**

— Мой бацька быў чыгуначнікам. Жалезныя дарогі ў першай палове XX стагоддзя былі вялікай махінай, дзякуючы якой людзі маглі зведаць свет. Мая цікавасць жыцця крыху падвяла: калі ў рэпатрыяцыйным цягніку я назаўсёды пакідаў Ваўкавыск, і калі я прыехаў у Варшаву, каб вучыцца і затрымаўся, здавалася, назаўсёды...

**— Можна сказаць, што жыццё Вы поўнасцю прысвяцілі літаратуры. Наколькі Вы засталіся пры беларускіх справах?**

— Я ў вялікай ступені лічу сябе рэнегатам. Я чалавек, які адышоў ад актыўных дзеянняў наконт беларускай культуры. Аднак я гэтага не адкінуў. Зараз працую над кніжкай і заўважаю, што выступаюць у маёй працы так званыя звароты. Калі занадта засяроджуся на польскасці, тады — СТОП! Больш немагчыма. Калі я працаваў у «Сучаснасці», я часта перакладаў беларускую літаратуру, пісаў пра яе. Пазней у «Літаратуры на свеце» таксама, нават прысвячаў цэлы нумар беларускай творчасці. Наогул беларускія і чарнарускія справы былі для мяне заўсёды блізкімі. Гэта сапраўды для мяне вельмі важнае. І шкадую, сапраўды шкадую, што не магу гэтага сказаць па-беларуску.

**— Вы часта прымалі ўдзел у літаратурных сустрэчах «Трыялог», арганізатарам і ініцыятарам якіх з'яўляўся святой памяці Сакрат Яновіч.**

— Я нават калісьці абяцаў Сакрату Яновічу, што калі прыеду на чарговыя «Трялогі», буду ўжо размаўляць па-беларуску. Таксама да гэтага намаўляў мяне



**Яўген КАБАТЦ** — празаік і перакладчык, нарадзіўся ў 1930 годзе ў Ваўкавыску. Вучыўся ў Варшаўскай школе планавання і статыстыкі. Дэбютаваў у 1949 годзе. Працаваў у часопісах «Współczesność» («Сучаснасць») і «Literatura na Świecie» («Літаратура ў свеце» - быў намеснікам галоўнага рэдактара). У 1968-1974 гадах быў дарадцам па пытаннях культуры пры пасольстве Польшчы ў Рыме. З 1975 года звязаны з Таварыствам еўрапейскай культуры (SEC). Па сёння застаецца старшынёй польскай секцыі SEC. Аўтар дзясяткаў раманаў.

Лявон Тарасэвіч. Я паўтараў Сакрату: «Ты — кароль Чарнарусі». Ён пытаўся: чаму? Тады я яму адказваў, што чарнарус, гэта беларус з чорным паднябеннем (*смех*).

**— Пра падзеі 1386 года ў Ваўкавыску, калі Ягайла аддае Літву Польшчы, можна прачытаць у адной з Вашых важнейшых кніг — у аповесці «Czarnoruska kronika trędowatych» («Чарнаруская хроніка пракажоных»). Тут зноў паяўляецца паняцце Чорнай Русі. Як Вы разумееце гэтае паняцце?**

— У маіх кніжках заўсёды выступае нешта такое — калі не пытанне беларускасці, то напэўна паняцце памежжа і праваслаўя. Я наогул часта карыстаюся паняццем «рускі паляк». Гэта не месціцца ў галовах некаторых людзей. Часта таксама смяюцца з мяне ці крытыкуюць. Я гэтым не пераймаюся. Відавочна ёсць ува мне нейкая палавінчатасць.

**— Ці Чорная Русь з'яўляецца толькі Вашым міфам, які можа некаторых шакіраваць? Для Вас чарнарус гэта чалавек памежжа?**

— Так, гэта трапнае акрэсленне. Паколькі Беларусь гэта вялікая дзяржава, то Чорная Русь з'яўляецца яе пагранічнай часткай, якая мае свае моцы і немачы, якая змагаецца сама з сабою. У маёй кніжцы «Чарнаруская хроніка пракажоных» гэта ўсё дакладна апісанае. Чорная Русь для мяне гэта Ваўкавыск, Навагрудак, Гродна і землі на польскім баку.

**— Якія Вы бачыце моцы і немачы памежжа, Чорнай Русі?**

Моц — гэта ўклад беларускай культуры ў польскую. Беласточчына знаходзіцца на скрыжаванні візантыйскага ўсходу з міжземнамор'ем. Тут ствараецца еўрапейская культура, якая з'яўляецца часткай сусветнай культуры. Немач — гэта немагчымасць справіцца з самімі сабой. Увогуле, беларусы крыху хаваюцца. І я кажу: «Давайце ганарыцца тым, што мы беларусы, а не казаць, што я тут тутэйшы». У гэтым я бачу пэўную немач, якая, між іншым, паўстае праз акалічнасці, праз гісторыю. Доўгі час мы не мелі дзяржавы. Зараз яна ёсць. Вядома, не ўсім нам яна падабаецца, але ёсць. Спадар Аляксандр Лукашэнка зусім мне не падабаецца, але ён мае свае рацы. Гэта такое наша ўсходняе, але мы глядзім на гэта ўсё з надзеяй, што ўдасца нам калісьці гэта выпраставаць. Гэта невялікая надзея. Але тое самае тычыцца палякаў. Менавіта Норвід сказаў: *Polacy są wspaniałym narodem i bezwartościowym społeczeństwem.*

**— А мы, людзі пагранічча, чарнарусы, якія часта маюць праблему з акрэсленнем сябе?**

— Найбольш магчымасці маюць рэгіянальныя культуры ў сваіх шматлікіх кампанентах матэрыі і духу. Тут можна гаварыць аб карысці, якая бярэцца з уступчывасці і дружбы, ад якіх заўсёды больш выгады, чым з заўзятасці і нянавісці.

**— Дзякую за размову.**




# XXI

## Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

**Рэдакцыя „Нівы" і Беларускі саюз у Польшчы аб'яўляюць XXI Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы «ДЭБЮТ». У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.**

**ПРЫНЦЫПЫ ЎДЗЕЛЬНІЦТВА**

**1.** Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:

— I група: дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій,

— II група: астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

**2.** У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.

**3.** Конкурсныя працы, набраныя на камп'ютары або разборліва рукапіс у двух экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас: Redakcja „Niwy", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84 з прыпіскай на канверце: XXI Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

**4.** Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

**5.** На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

**6.** Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

**ТЭРМІНЫ**

**1.** Тэрмін дасылання да 31 кастрычніка 2018 г. (вырашае дата паштовага штампа).

**2.** Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены ў лістападзе 2018 г.

**3.** Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі.





# Тэктанічны зрух

Падзея, якая адбылася на мінулым тыдні, па сваёй значнасці для праваслаўя, а можа і ўсяго хрысціянства, магчыма ўвойдзе ў гісторыю рэлігіі як падзея стагоддзя. Усяленскі патрыярхат у Канстанцінопалі на Свяцейшым сінодзе скасаваў рашэнне сваіх папярэднікаў ажно з 1686 года. 11 кастрычніка пастанова больш чым трохсотгадовай даўніны была адменена. Паводле новага рашэння передача Кіеўскай мітраполіі ў кіраванне Маскоўскай царквы прызнаная незаконнай. Рашэнне гэтае прынятае ў рэчышчы прадстаўлення Украіне томаса аб праве на аўтакефалію праваслаўнай царкве.

Акрамя гэтага прадстаяцеля Украінскай праваслаўнай царквы Кіеўскага патрыярхату Філарэта і прадстаяцеля Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Макарыя Сінод Усяленскага патрыярхату аднавіў у кананічным сане. Прыгадаем, што Руская праваслаўная царква ў 1997 годзе абвясціла анафему патрыярху УПЦ КП Філарэту (Дзенісенку). У 1992 годзе Маскоўская патрыярхія пазбавіла яго сану мітрапаліта, звінавачваючы ў раскольніцтве. Таксама РПЦ не прызнала УАПЦ, якую з 2015 года ўзначальвае мітрапаліт Макарый (Малеціч). Пасля гэтага і высілкі праваслаўных іерархаў Украіны і дыпламатычныя захады кіраўніцтва краіны былі скіраваны на атрыманне аўтакефаліі. Яшчэ пару гадоў таму прадстаўнікі РПЦ публічна смяяліся са спроб украінцаў дамагчыся юрыдычнай незалежнасці ад Маскоўскага патрыярхату. І вось яна новая рэальнасць! У ёй, між іншым, украінцам засталася фармальная, хоць і не зусім простая рэч — правядзенне аб'яднаўчага сабора двух рэальных украінскіх праваслаўных цэркваў. Няма сумневу, што да яго далучыцца і частка, хоць і меншая, іерархаў і святароў, якія дагэтуль заставаліся ў падпарадкаванні РПЦ.

Самае галоўнае для беларусаў у гэтай сітуацыі тое, што зараз дэ-юрэ і Беларуская праваслаўная царква не абавязана кананічна падпарадкоўвацца Маскоўскаму патрыярхату. І хоць да рэальнай аўтакефаліі беларусам яшчэ далёка, але, вобразна кажучы, адбыўся тэктанічны зрух, які ўжо ў блізкай гістарычнай перспектыве мае незваротны характар. Не абавязаны падпарадкоўвацца Маскве зараз і праваслаўныя Літвы, а таксама некалькіх рэгіёнаў, якія ўваходзяць цяпер у склад самой РСФСР (!) — гэта землі былой Рэчы Паспалітай сямнаццатага стагоддзя.

Масква за гэты перыяд „халоднай вайны" „з усімі і за ўсё" атрымала ад Усяленскага патрыярхату зараз паразу большую, чым ад усіх палітычных аб'яднанняў і дзяржаў Захаду і Усходу, з якімі яна канфліктуе, разам. Нездарма ўзнікла сапраўдная паніка і Пуцін нават тэрмінова склікаў пасяджэнне Савета бяспекі, на якім прысутнічалі ўсе галоўныя сілавікі дзяржавы. І гэта пры тым, што заканадаўча царква ў Расеі аддзелена ад дзяржавы! Але гэта толькі заканадаўча. Насамрэч жа яна даўно прыватызавана гэтай дзяржавай і пастаўленая ёй на службу. Служыць гэтай дзяржаве верай і няпраўдай.

Рашэнне Усяленскага патрыярхату па сваім змесце апынулася куды цяжэйшым за проста прадстаўленне Украіне аўтакефаліі. Яно канчаткова разбурае ідэю так званага „русского мира". Невыпадкова пастанова Канстанцінопальскага сінода выклікала сапраўдную паніку ў расейскіх дзяржаўных колах. Зараз Маскоўскі патрыярхат апынецца ў ізаляцыі. Магчыма яму ўдасца перацягнуць на свой бок адну-дзве з іншых чатырнаццаці Памесных цэркваў, але і гэта пад вялікім сумневам. Так што менавіта РПЦ зараз будзе выглядаць як галоўны раскольнік сучаснага сусветнага праваслаўя. Так, як яно ўласна і ёсць.

Таму можна зразумець тую ліхаманкавасць, з якой маскоўскі патрыярх Кірыл яшчэ па гарачых слядах Пуціна паляцеў у сталіцу Беларусі. Невыпадкова тут пройдзе сінод РПЦ, на якім будуць і анафемы і розныя палітычныя заявы. Ужо першы дзень знаходжання Кірыла ў Мінску адзначыўся скандалам — за крытыку маскоўскага іерарха ад вядзення службы адхілены адзін з аўтарытэтных беларускіх святароў. Масква і тут гатовая задушыць у сваіх „братэрскіх абдымках" усіх нязгодных з яе палітыкай. Беларусь — гэта яе апошняя падпарадкаваная мітраполія, апошняя надзея.

Але „тэктанічны зрух" ужо адбыўся.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Трымацьмем свайго берага

Напісаная ў нью-йоркскі час, дзясятак гадоў назад: «Невядома чаму, насніліся мне гадзюкі. Ці азначае гэта што-небудзь? Тыдзень працую на гмаху, які прымыкае да Trump Tower. Манхэтэнэнскія вятры моцна трасуць кладкай, на якой вісім з маім мексіканскім спадарожнікам Хесусам. У сцяне хмарачоса выкоўваем цагляную абліцоўку. Некалькі дзясяткаў паверхаў над зямлёй. Але ў нас ёсць выдатны від на Цэнтральны парк. Па азерцы плаваюць лодачкі. Чалавечкі не большыя чым кузуркі шпацыруюць па дарожках звілістых як Нарва паміж ліліпуцкімі купкамі дрэў. Папрацаваўшы, супольная трапеза з Хесусам на плошчы Union Square. — Эх, — уздыхнуў я над недапітай шклянкай кока-колы, — каб ты яшчэ мог ператварыць яе ў... тэкілу, Хесус! Мы расталіся на станцыі метро ля Гранд-стрыт. Хесус спяшаўся да сваёй чыкіты, а я, як правіла, ніколі не ў спешцы, з перакананнем, што ўсё мае свой час. Удалечыні ад станцыі, на аўтобусным прыпынку Q59 нейкі вар'ят, а, магчыма, п'яны чалавек жорстка лаяў сябе самога. Ён быў велізарны ростам, і што дзіўна, у расхрыстаным плашчы здаваўся такі растапыраны, як жахлівае птушыдла з апаўшымі крыламі. — Трэба пільнавацца! Сцеражыся! Сцеражыся! — вішчаў. Не звяртаў увагі на іншых людзей, не зачапаў нікога, не шукаў з кім-небудзь звады. Клыпаў сярод пасажыраў, якія чакалі аўтобуса, і сур'ёзна асцерагаў — каго? Чаму? Калі чалавек падышоў да мяне, са сваім горкім «Сцеражыся!», я мімаволі ўцёк ад яго вачыма — заблытаны, бездапаможны, спалоханы. У долю секунды нашы вочы сустрэліся. Яго — пустыя, невідушчыя. Мае — верагодна, спалоханыя, хоць змяшаныя са здзіўленнем і падзякай. Але шалёны абыякава адвярнуўся ад мяне, далей ускліквачы.»

Шмат гадоў таму, у маёй наднарваўскай-паднараўскай ваколіцы гадзюк было хоць адбаўляй. Даводзілася быць вельмі асцярожным, тым больш, што летам звычайна ходзіш басанож. Ідучы сцежкай пасярод поля трэба было ўзірацца ў сонечныя плямы на жвіры. На выгрэтым сонцам жвірку колеру іржы, поўных гематыту камячкоў дзёрну, гадзюкі грэліся найбольш ахвотна раніцай. Восенню паказваліся ў гэтых месцах вялікія рыжыкі. Казалі, што вылежалі іх гадзюкі. Сёння зараслі тое месца пырніковы дзёран і ўпарты сумнік. Прапаў міцэліем рыжыкаў. Гадзюк, верагодна, не бачыў я гадоў трыццаць. Вужыкі (Natrix natrix, zaskroniec) ёсць, і ў вялікіх колькасцях. У маім садзе на працягу некалькіх гадоў валадарыць Вялікая Каластына, вужыца, якая пад падмуркам хаты адкладвае яйкі штогод. У яе ёсць шнар вакол галоўкі, таму яе пазнаю. Хто ведае, ці яе шматлікае нашчадства распаўзлося аж да берагоў Нарвы.Часта я сутыкнуўся гэтым летам з маладымі вужыкамі на пясчаных рачных водмелях, дзе палявалі на жаб. У апошнія гады шырока распаўсюджваюцца мядзянкі. Гэта прыгожыя, неядавітыя, быццам сфармаваныя з глянцавай медзі, вужыкі. Часцей за ўсё я знаходжу іх раз'еханых на асфальтаванай дарозе. Людзі ў сваіх праносяшчыхся аўтамабілях не ў стане надаваць мінімальную ўвагу свабоднаму стварэнню. Нішто не можа спыніць разагнанай чалавечай цывілізацыі. Нават эколагі, якія абараняюць Пушчу, што кладуцца ніцма перад раз'ранымі харвестарамі. Гэта гусенічныя машыны, надзвычай карысныя ў будаўнічых работах і лясной гаспадарцы. Але і абсалютная бестыя, калі яе працай кіруе дурань, які не разумее наступстваў сваіх неасцярожных рашэнняў.

Ну, ізноў жа, прыснілася мне гадзюка. Пару дзён таму. Магчыма, пад уплывам чытання *Аналаў, Хронік Каралеўства Польскага*, працы шаноўнага Яна Длугаша? У першым томе ён амаль 600 гадоў таму напісаў: «... [цёмных] вод Нарвы ядавітыя істоты не пераносяць. Гадзюкі, як толькі дасягаюць яе ваду, якія трымаліся плыту, аддаляюцца з шыпеннем, нібыта ўцякаюць ад смяротнай для сябе вады (...)». Аб цёмным колеры Нарвы, як я прачытаў у заўвазе ў ніжняй частцы старонкі, таксама згадваў у дзевятнаццатым стагоддзі Антоні Рэгман, падарожнік і геабатанік, прафесар Львоўскага ўніверсітэта, «што ... гэтыя ўласцівасці ракі Нарвы да гэтага часу можна ўбачыць ля вусця ў Віслу каля Модліна, дзе мутная і паловая віслянная вада трымаецца левага, а цёмна-сіняя вада Нарвы — яго правага берага. Такім чынам, паток вады плыве побач адзін з адным, змешваючыся адзін з адным вельмі павольна». Ну, барацьба за самаўрады ідзе! Трымаймася, галасуючы, свайго берага. І будзьма асцярожнымі.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Выбарчы марафон (2)

Тыдзень у выбарчым календары гэта проста сама меней год у палітычным зацішшы. Колькасць абяцанняў, канферэнцый, прыезду больш ці менш важных гасцей уражвае сваёй маштабнасцю. Да гэтага трэба абавязкова далічыць і выбарчую зброю ў выглядзе лістовак, радыё-тэлевізійных рэклам, велізарных банераў з выявамі кандыдатаў, інтэрнэтных ролікаў, прамоцый ў сацсетках і таму падобных прыёмаў. Усяго багацця рэкламных прапаноў кандыдатаў у мясцовую палітыку не пералічыць і не прыдумаць. З пэўным здзіўленнем заўважаю, што колькасць вонкавай рэкламнай прадукцыі, якую прыходзіцца бачыць у адкрытай гарадской прасторы Беластока, уражвае сваёй грандыёзнасцю і колькасцю. Будучы зараз у Варшаве, не заўважыў я такога шаленства візуальнай прапаганды як у нас. Там проста не адчуваеш перанасычанасці выбарчай рэкламай. А тут, у сталіцы Падляшскага ваяводства, пануе атмасфера палітычнага вестэрну з усходнім спосабам думання. Найважнейшае — дабіць канкурэнтаў, прынамсі велічынёй рэкламных стэндаў, а за тым укладзеных сродкаў. Беластоцкія каўбоі — кандыдаты на прэзідэнта горада — страляюць да сябе вачыма і з каменнымі тварамі мераюцца позіркамі як перад баксёрскім змаганнем за чэмпіёнскі пояс. Вісяць, высока распятыя на скрыжаваннях перабудоўваных вуліц і дэвелёперскіх новабудоўлях, паказваючы ўскосна, хто сёння ў Польшчы хросны бацька многіх самаўрадавых рашэнняў. І ўсе яны, кандыдаты, — стаўленікі палітычных партый і іх інтарэсаў. Грамадзянскія выбарчыя ініцыятывы глядзяцца як бедныя сіроты пры багатых дзядзьках і цётках. От табе і маеш роўныя шанцы самаўрадавай гонкі. Трэба спадзявацца, што празмерная рэкламная палітычная крыклівасць выкліча патрэбу дыстанцыі і рэфлексіі над праграмамі, а не бяздумнае захапленне кінутымі грашыма. Недастаткова глядзець і галасаваць, ні над чым і не над кім не думаць, бо галоўны вораг усіх палітычных дэмагогаў і палітычных прайдзісветаў — думаючы электарат.

Не менш важнай падрыўной зброяй, асабліва ў самаўрадавай кампаніі, з'яўляецца плётка. Як адмоўны і пазітыўны піяр, мае яна за задачу ўзвышаць кандыдата і яго якасці, або зусім абсабачыць і прысудзіць на грамадскае знішчэнне ў выбарчы дзень. З плёткай не наваюеш, бо найчасцей нельга знайці аўтара першапачатковай яе версіі. І калі плётка прыліпне да чалавека, то абвергнуць яе і разбіць усе фальшывасці такой навіны — справа доўгая і амаль безнадзейная. Сам памятаю вельмі добра тыя плёткі-фальшыўкі ў свой і Беларускага выбарчага камітэта адрас. Асабліва значэнне мае яна ў меншых гарадах і гмінах, дзе ўвага да свету плётак з'яўляецца свайго роду спосабам пошуку самага простага адказу на найбольш складаныя грамадскія і жыццёвыя праблемы. Класічным прыкладам такой удалай і трывалай палітычнай плёткі на польска-беларускім памежжы было прысваенне польскаму палітыку Уладзімежу Цімашэвічу беларускіх каранёў і звання «наш Валодзя». Як вопытны палітык былы прэм'ер такой навіны не аспрэчваў і не пацвярджаў. Феноменам бацькі пакарыстаўся яшчэ і ягоны сын, які зараз з'яўляецца паслом Сейма ад былой кіруючай партыі. Мой сябра распавёў мяне, што зараз у Беластоку сярод яго праваслаўных жыхароў пашыраецца плётка пра праваслаўныя сямейныя сувязі аднаго з кандыдатаў і яго нібыта любоў да вернікаў-артадоксаў. Зразумела, што сам кандыдат публічна нідзе і не заікнуўся з такімі заявамі.

Ад некалькіх гадоў наглядаецца яшчэ адзін спосаб прыдбання сабе выбаршчыкаў. А менавіта трэба накарміць іх умоўна і рэальна гэтак званым выбарчым мясам і абдарыць нейкай дробяззю, якая можа быць прыдатнай у штодзённым карыстанні. Таму кандыдаты кормяць нас гарачымі супамі, частуюць кавай і гарбатай з піражнымі. Завіхаюцца яны пры гэтым быццам самыя лепшыя кухары з тэлевізійных праграм. Пры нагодзе абавязкова ўручаюцца розная віду выбарчыя матэрыялы. Класічныя каляндарычкі на наступны год з'яўляюцца ўжо нейкай акамянеласцю, характэрнай яшчэ для вясковай прасторы. Цяпер у падручным сэрвісе выбарчага гульца знаходзяцца запісныя кніжачкі, цукеркі, медычныя сродкі і Бог ведае што яшчэ. Таму выбраць добрага самаўрадаўца з мора рэкламных экспанатаў — справа сапраўды нялёгкая.

Яўген ВАПА

# Узнагароды маршалка 2017/2018

**Узнагароды маршалка Падляшскага ваяводства за дасягненні ў галіне мастацкай творчасці, распаўсюджвання і захоўвання культуры былі ўрачыста ўручаны 13 кастрычніка ў Падляшскай оперы і філармоніі.**



Веслаў Станіслаў Дамброўскі, Войцех Адам Шрэдар, Тамаш Віснеўскі, Ежы Нікітаровіч, Станіслава Ева Сковыш-Муха і Шыман Галоўня атрымалі прэміі маршалка за свой уклад у культуру за мастацкі сезон 2017/2018, хаця іх уклад у яе — дасягненне ўсяго іх жыцця. Прэміі маршалка з'яўляюцца рэалізацыяй пастановы Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства. Кожны з пераможцаў атрымаў 8000 злотых

**Станіслаў Веслаў Дамброўскі** — харэограф, педагог — атрымаў узнагароду за мастацкую дзейнасць для падтрымання і прасоўвання культурнай спадчыны Падляшшая як на агульнапольскай, так і на міжнароднай арэне, у прыватнасці, за дзейнасць у ансамблі песні і танца «Курпе Зялёнэ». «Я правёў 42 гады з гэтым калектывам, мы неслі нашу культуру па ўсім свеце, — сказаў ён усхваляваны да слёз. — Як не памятаць прыняцця нас на Гродзеншчыне!»

**Адам Войцех Шрэдэр** — аніматар культуры, адзін з заснавальнікаў фонду «Pogranicze» і Асяродка «Пагранічча — мастацтваў, культур, народаў» у Сейнах — атрымаў узнагароду за ўсе анімацыйныя і адукацыйныя дзеянні, уключаючы стварэнне і кіраванне Клезмерскім аркестрам Сейненскага тэатра: «Гэтая ўзнагарода абавязвае мяне яшчэ да больш руплівай працы на Сейненшчыне».

**Тамаш Вісьнеўскі** — культуразнаўца, журналіст, гісторык, кінематаграфіст — узнагароджаны за ўсю яго дзейнасць у распаўсюджванні і ахоўванні культуры, за садзейнічанне развою і рэгістрацыю гісторыі рэгіёна, папулярызацыю традыцыі мультыкультуралізму Падляшша і ахову памяці яго жыхароў: «Сведкі штораз хутчэй адыходзяць, я ў пагоні за імі, верагодна, таму, што я ніколі не перастаў быць журналістам. На маім канале «Bagnówka» ёсць каля дзвюх тысяч фільмаў пра людзей і месцы, між іншым пра Сакрата Яновіча і Крынкі; прабую рэканструяваць светы, якія прапалі».

**Станіслава Ева Сковыш-Муха** — пісанкарка, народная мастачка — узнагароджана за цэласць дзейнасці і дасягненні ў галіне аховы і працягу спадчыны Ліпскай зямлі і ўсяго Падляшша: «Я пераняла ад сваёй маці здабленне яек, і займаюся гэтым амаль семдзесят гадоў. Запрашаю наведваць Музей ліпскай пісанкі, і ўправе ваяводства ўручаю святочную бела-чырвоную вялікую пісанку».

**Шыман Галоўня** — пісьменнік, журналіст, публіцыст, дзеяч дабрадзейнасці — узнагароджаны за цэласць журналісцкай дзейнасці, у духу талерантнасці і ўражлівасці да іншага чалавека.

**Ежы Нікітаровіч** — родам з Мельніка, педагог, выкладчык, прафесар гуманітарных навук, стваральнік Кафедры міжкультурнай адукацыі ва Універсітэце ў Беластоку — узнагароджаны за дзеянні і ініцыятывы, накіраваныя на мірнае суіснаванне і супрацоўніцтва разнастайных у культурным плане грамад. У ляўдацыі, напісанай Кшыштафам Чыжэўскім з «Пагранічча», прафесара хваляць за пабудову падляшскай школы даследаванняў пагранічча і міжкультурных даследаванняў памежжа. Нікітаровіч дадаў, што для яго самае галоўнае, каб людзі стараліся зразумець і паважаць адзін аднаго.



Ежы Нікітаровіч



Віктар Швед і Тамаш Вісьнеўскі

— Як акрэсліць сваю ідэнтычнасць на шматкультурнай Беласточчыне?

Ежы Нікітаровіч: — Я лічу, што ў цяперашніх умовах мультыкультуралізму мы сутыкаемся з неабходнасцю прызнаць роўныя правы для іншых культур, а таксама неабходнасць адкінуць метакультуру ды монакультуру, і неабходнасць нам выйсці за межы першых групавых сувязей, сувязей прыроднага этнацэнтрызму, па-за абсалютызуючы аўтамат. Стварыць інтэграваную ідэнтычнасць. Гэта феномен у развою, дынамічны, адкрыты для пастаяннага стварэння і станаўлення, складаная з'ява, зменная, якая злучае элементы блока персанальнай сістэмы з цэнтральнымі каштоўнасцямі культуры групы, да якой належыць індывід і свядомага ўдзелу ў каштоўнасцях іншых груп, таксама ў пазачасавых каштоўнасцях еўрапейскай і сусветнай культуры. Асноўнай праблемай адукацыі з'яўляецца неабходнасць арганізацыі такіх сітуацый і ўмоў, якія дазволяць адказаць на наступныя пытанні: Як перайсці ад маналогу да дыялогу культур, узаемнага спазнання і разумення адрозненняў, весці размову, з увагай да каштоўнасцей транснацыянальнай сусветнай культуры? Як змякчыць і аслабіць стэрэатыпы і прадузятасць і рэалізаваць успрыманне «іншага» як цікавага, прыязнага, а не пагрозлівага ды варожага. Каб свядома захоўваць сваю ідэнтычнасць у новай культуры. Каб вызначэнне ідэнтычнасці ў адной культуры не выключала, і нават падтрымлівала ідэнтыфікацыю з іншай, напрыклад, з адначасовым вызначэннем: Я — беларус і паляк, я тое, што я адчуваю, і кім хачу быць, а не так, як іншыя абазначаюць мяне. Асабліва на памежжах. Можаш быць адначасова чэшскім і польскім, літоўскім і польскім, габрэйскім і польскім, беларускім і польскім. Лічу, што чым вышэйшая свядомасць культурнай спадчыны, першага свету ўкаранення, тым часцей набытая тоеснасць мае шырэйшы абсяг і вышэйшы ўзровень. Культурная дэзарыентацыя з'яўляецца таксама вынікам расколу паміж пакаленнямі і адсутнасцю асоб, якія могуць накіроўваць. Несумяшчальнасць ідэй і каштоўнасцей можа прывесці ў культуры пакаленняў да самаразбурэння, калі няма перадачы паводзін у групе. Чалавек адзінокі не дае рады справіцца з адчужаным светам. Тэндэнцыя да вырашэння праблем, якія ўзнікаюць, у найбольш просты спосаб — фармакалагічны (таблеткі ад спалоху, стрэсу, смутку, атлусцення, тугі, трывогі, стомленасці і г.д.) практычна мяняе чалавека і цэлае пакаленне, што робіць іх непадрыхтаванымі пераносіць цяжкасці, пераадольваць праблемы і дылемы.

Пошукі роднасці, групы прыносяць гонар і радасць, папраўляюць імунітэт і даюць сілу ды пачуццё ўласнай годнасці, павагу да іншых... Старому пакаленню, якое прабуе выхоўваць маладое, часта здаецца, што эфектыўная інкультурацыя адбываецца тады, калі будзе такая адаптавацца да сацыяльнага жыцця, калі засвоены будуць такія сацыяльныя паводзіны, калі ты — канфарміст. Талерантнасць у такім выпадку разглядаецца як слабасць, абыякавасць; яна тады не цнота, а загана. Талерантнасць у гэтым кантэксце — саступка, згода на адыход ад прынцыпаў, адмова ад сваіх каштоўнасцей. Дамінаванне тэорыі рацыянальнага выбару можна назваць камерцыялізацыяй ідэнтычнасці, у гэтым выпадку ідэнтыфікацыя групы ў асноўным інструментальная і разглядаецца як прыдатная для афармлення палітычных і эканамічных інтарэсаў. Такім чынам яе мэтай будзе не фарміраванне тоеснасці на падставе канкрэтнага культурнага зместу, культывацыі традыцый, але ўлада, эканамічнае і палітычнае панаванне.

Тэкст і фота
Міры ЛУКШЫ

## Барыс адбудаваў мініяцюру царскага палаца

Тры гады з невялікімі перапынкамі Барыс Казлоўскі з Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета будаваў мініяцюру колішняга царскага палаца ў Белавежы. Зараз гэты атракцыён стаіць у засені восеньскіх пераважна ліставых дрэў ды абгароджаны драўляным плоцікам на панадворку агратурыстычнай кватэры «Бора-Здруй» Людмілы і Барыса Казлоўскіх.





Макет карыстаецца вялікай зацікаўленасцю турыстаў і іншых наведвальнікаў. Нядаўна (22 верасня г.г.) сюды прыязджалі на аўтобусе слабавідучыя і невідучыя з Гайнаўкі і Бельска-Падляшскага і тут святкавалі г.зв. Дзень белай палачкі. Сёлета на фоне гэтага цікавага па архітэктуры аб'екта рабілі сабе памятныя здымкі, між іншым, удзельнікі «зорчыных» сустрэч.

«Каб пабудаваць вялікі макет палаца, спатрэбілася шмат намаганняў і... больш за 10 тысяч цэглаў, — сказаў на развітанне спадар Барыс. — Каштавала мяне нямала». Але спадару Барысу ўдалося! Мары яго збыліся.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Дэмаграфія Беластока

Зараз Беласток налічвае 297 тысяч жыхароў. Пяць гадоў таму было іх 284 тысячы. Лік народзін большы на 400 за паховіны. Горад на дэмаграфічным плюсе. Далейшыя прагнозы — менш аптымістычныя. Пасля 2022 года лік беластачан будзе змяншацца. Ёсць многа пажылых жыхароў. 7 кастрычніка гэтага года прэзідэнт горада ўручыў медалі «За шматгадовае шлюбнае жыццё» для 80 пар.

Раней горад быў малодшы. Было многа маладых жанчын, якім лёгка было знайсці працу. Нараджалася больш дзяцей. Цяпер маладыя і адукаваныя жыхары Беластока выязджаюць у Варшаву або за граніцу, між іншым, у Вялікабрытанію, Швецыю, Бельгію і Германію. Там шукаюць сабе працу і знаходзяць. Апрача таго жыхары вёсак — як прагназіруюць — ужо не будуць так масава як было дагэтуль перасяляцца ў Беласток.

Некаторыя жыхары ваяводскай метраполіі пасяляюцца ў вёсках у падбеластоцкіх гмінах. Старэйшыя людзі, перш-наперш пенсіянеры, усё часцей вяртаюцца на вёску. Купляюць там драўляныя дамы, каб жыць без стрэсу, спакайней, бліжэй натуры, мець свой невялікі сад, агародчык з агароднінай і кветкамі, свой панадворак. Летам і восенню ў лясным старонні будуць хадзіць па ягады і грыбы. Дзе як дзе, але такія прыклады маю ў сваёй роднай вёсцы Новае Ляўкова Нараўчанскай гміны. Тут купілі тры хаты і адзін прыгожы драўляны дом пабудавалі. З Беластока ў бацькоўскі дом прыехала дажываць адна асоба. Шэсць пустуючых бацькоўскіх драўляных хат час ад часу наведваюць дзеці. **(яц)**

# Быў трактарыстам

*Сваё жыццё ўспамінае* ***Сяргей ПЫЖ****, пенсіянер са Спічкоў у Арлянскай гміне, народжаны ў 1938 годзе.*

### ДЗЯЦІНСТВА

Паходжу з Кашалёў, дзе пражыў першыя 25 гадоў. Дзяцінства помню ўжо з шостага года жыцця. Дома было нас чацвёра дзяцей, браты і сястра. Брат Коля, калі дарос, пайшоў у войска ў Гайнаўку, старэйшы на два гады Валодзя стаў на працу ў цагельню, а сястра, 1926 года нараджэння, у час вайны была на прымусовых работах ва Усходняй Прусіі.

Калі было мне шэсць гадоў, фронт падаваўся на захад. Да нас, у Кашалі, прыйшлі 20 ліпеня 1944 года. Першымі ехалі нямецкія танкі, якія спыніліся на ўзгорку, дзе зараз стаяць ветракі. І тут фронт спыніўся на восем дзён, а на дзявяты дзень немцы ўцяклі. Найперш яны спалілі Тапчыкалы, пасля Кашалі і частку Орлі. А нас мама завяла ў Тапаркі, бо там жыў татаў дваюрадны брат. Навокал Тапаркоў быў лес і там баёў не было; былі мы там тыдзень.



У Кашалях было многа забітых салдат. Саветы за нашай клуняй паставілі гарматку. А з Сіткоўшчыны (урочышча каля Спічкоў) немцы навялі на яе агонь з танка і адразу разбілі тую гарматку. Два салдаты загінулі на месцы, а аднаму адарвала нагу. Той ранены прасіў у бацькі вады, а са сховішча немагчыма было высунуць галаву. Лемяшова выйшла нарваць свінням зелля, то ў яе адразу трапіў снайпер; сядзеў недзе на грушы ў полі.

Памятаю, як немцы прыехалі ў Кашалі, да солтыса, тры хаты за нашай. Паставілі вялікі самаход з будай, выскачыла з яго хіба з чатырох немцаў і пайшлі ў солтысаву хату.

Ці помню жыдоў? Аднаго жыда помню, які прыйшоў да нас у хату; ужо іх мелі вывозіць. Называўся Шлома, а мянушку яму далі Бязвухі, бо не меў аднаго вуха. І кажа бацьку: „Дэмян, у тэбэ е діеті, а ў мэнэ троху ест одэжы. Штось нэбудь дасі мне на дорогу". Прасіў, каб зварыць яму яйкі на крута, бо мама трымала курэй. Мама дала яму тое, што было. То жыд даў добры кажушок, у якім я тры зімы хадзіў у школу.

### ШКОЛА

У першы клас пайшоў я ў 1947 годзе. Дзеці былі рознага ўзросту. Мне было няпоўных восем гадоў, а Шурыку Кубаёўскаму больш за дванаццаць. Такі быў пасляваенны час. Пасля завяршэння сямігодкі год вучыўся яшчэ на сталяра ў гайнаўскай „завадоўцы", але пакінуў, бо не было каму памагаць у гаспадарцы пажылому бацьку — старэйшыя браты адышлі. Я знаў і вашага бацьку, талковага сталяра.

### ВОЙСКА

Меў адтэрміноўку і пайшоў служыць 21-гадовым кавалерам увосень 1959 года. Служыў спярша ў Мальбарку, а пасля ў Арнэце. Вартаваў рэактыўныя самалёты. У эскадры было 12 машын, а дзве былі напагатове. Самалёты былі аднамесныя і некалькі двухмесных для метэаралагічных мэт. У ангары быў яшчэ савецкі „Як", які забіраў на борт звыш дзясятка чалавек.

Ці я сядзеў у кабіне лётчыкаў? Нам, салдатам, паказалі толькі адзін раз. Вельмі складаная апаратура. У мяне званне старшага радавога. Пасля пяці гадоў, у 1968 годзе, хацелі мяне прызваць у запас на тры месяцы, калі на Шлёнску былі забастоўкі. Але не ўзялі, бо я ажаніўся і было малое дзіця.

### СУЖОНСТВА

Ажаніўся я ў 1964 годзе. У царкве шлюбу не бралі, бо хто быў у партыі, то начальства крыва глядзела на такіх. Жонку пазнаў таму, што быў трактарыстам. Прыйшла ейная маці са Спічкоў, каб я заараў поле. Я тады пазнаў Марысю, спадабалася мне, пажаніліся. І добра жылі, разжыліся.

Першыя шэсць гадоў жылі з цясцямі. Будаваліся мы з жонкай ад асноў і пабудавалі будынкі. Пры будове найбольш памагалі мне Федзя і Пеця Хурсы з Кашалёў.

Каб стаць трактарыстам, трэба было прайсці курс у бельскім ПОМе. У Кашалях быў сельскагаспадарчы гурток, старшынёй быў Коля Лемеш. Былі два трактары „28", слабенькія. На адным ездзіў я, а на другім Валодзя Хурса; яго другі раз прызвалі ў запас і загінуў. Прычэпы былі нягнуткія, без рысор, атрымалі snoпавязалкі.

### СПОРТ

Я ў войску гуляў у футбол у вайсковай камандзе, называлася „Блакітныя" Арнета. Выступала ў А-класе, я быў абаронцам. Помню, што абыгралі мы „Езярака" з Ілавы 1:0. Быў і „Сокал" Аструда. Тут быў *эльзэтэс*, але трымаўся слаба, бо не было падтрымкі з гміны.

### ЯК ЖЫЛІ Ў ПНР?

У эпоху ПНР было многа змен. Найлепш жылося пры Эдвардзе Герку. Бо былі і Берут, і Гамулка, і Охаб, і Ярузельскі... Герэк даваў крэдыты, а яны былі патрэбны, калі нехта будаваўся. Гэта раз; і анулёўваў іх. Трэба было прадставіць квіты і можна было атрымаць льготы.

Герка хвалілі не толькі сяляне, але і шахцёры таксама; яшчэ да сёння мае ён аўтарытэт. Быў незалежны ад Усходу, а сваім людзям рабіў дабро.

Абавязковыя пастаўкі? Меў я на сабе 1,62 гектара „папоўшчыны", то абавязковыя пастаўкі яшчэ мяне ахапілі; гэта было пры Гамулцы і Охабе. Охаб адмяніў малако, а Гамулка рэшту.

— Вы былі першым сакратаром падставовай партыйнай арганізацыі ў Спічках...

— Арганізацыя была ў Спічках. Калі я прыйшоў, то было толькі пяць асоб, а я разбудаваў да 10-11 асоб. Хто дапамог? Найбольш дапамог мне Міхалюк, павятовы сакратар, якога пасля перавялі ў Ломжу.

— Ці людзі ахвотна ўступалі ў тую арганізацыю?

— У Спічках не вельмі, але пасля некалькі асоб адышло на працу ў Бельск, адна ў ПЗУ...

— Была карысць ад прыналежнасці да партыі?

— Значыць, так надта прывілеяў не мелі. Толькі як я будаваўся, то матэрыял мог купіць, лягчэй было атрымаць. Бо многа часу траціў, у тыдні адзін дзень ездзіў у гміну. Быў таксама дзесяць гадоў гмінным радным; адзін тэрмін доўжыўся чатыры гады, але ваеннае становішча прадоўжыла да шасці. Начальнікам гміны быў тады Мікалай Кадлубоўскі, а пасля шмат гадоў Мікалай Зіневіч і ён мне найбольш дапамог.

— Ці былі ў ПРОН (Patriotyczny Ruch Odrodzenia Narodowego)?

— Быў дапісаны да ПРОН, то іншыя смяяліся, што гэта ВРОН (Wojskowa Rada Ocalenia Narodowego).

— Як да Вас адносіліся вяскоўцы, калі Вы толькі нажываліся і пасля, калі ўжо разжыліся?

— Беднаму то ніхто і пазычыць не хоча. Калі разжыліся, то людзі пачалі не толькі інакш адносіцца, але і зайздросціць. Людзі пляткарылі, нават да сёння, што гэта партыя мне дапамагала, партыя пабудавала. А гэта няпраўда, трэба было працаваць. Жонка добра працавала, і я. І яшчэ мяне паставіў на ногі Янак Пракапюк, ён быў у павеце адказным за надзел машын, прыдзяліў мне трактар „трыццатку" з кулка ў Шарнях. І тады мне гаспадарка стала расці проста ў вачах. Пасля купіў лепшую „трыццатку" ад Сашы Стэпанюка за 12 тысяч злотых, то на ім і па сёння езджу.

— Ці яшчэ працуеце ў полі?

— Так, хаця ў мяне зламаны левы клуб. На веласіпедзе не магу ехаць, але на трактары так. Маю трактар „шасцідзясятку" (прыдзяліў Зіневіч), але ў ім цяжка працуе счапленне, а ў „трыццатцы" лёгка.

— У Спічках вельмі працавітыя людзі...

— Працавітыя людзі і зайздросныя. Тут пастаянна такая канкурэнцыя, што адзін перад другім; і багацейшаму зайздросцяць. Помню пасляваенныя гады і тады не было так. Спічкі змяніліся, старыя паўміралі, а некаторых пазабіралі дзеці да сябе ў Бельск ці Беласток.

— Як Вы параўноўваеце эпоху ПНР з цяперашняй дэмакратыяй?

— Ёсць такія, якім зараз лепш, а ёсць і такія, якім пры камуне было лепш. А чаму? Бо за адзін метр пшаніцы мог купіць 2-3 метры салетры на ўгнаенне, а зараз наадварот. Папяросы былі тады таннейшыя, былі за няцэлыя тры злоты, а зараз 10-12 злотых. Але цяпер лепш настолькі, што пенсія ёсць. На пенсію пайшоў роўна ў 60 гадоў; зараз маю 1200 злотых. Многа ідзе на лякарствы. Маю пастаянную льготу, бо мне больш за 75 гадоў, але не ўсе лекі бясплатныя.

— Дзякую за размову.

Размаўляў і фатаграфаваў
**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Закапанэ маімі вачамі (ч.1)

Гэтага лета здзейснілася адна з маіх мар, а менавіта дзякуючы маёй жонцы мы на летні свабодны час пастанавілі з'ездзіць у Закапанэ. Напачатку я думаў, што з'ездзім поездам, але рашылі больш за 700 кіламетраў з'ездзіць на аўтамашыне. Купілі мы самыя патрэбныя харчовыя прадукты, халадзільнік для аўтамашыны ды іншыя патрэбныя рэчы, неабходныя ў доўгім падарожжы. З Беластока мы выехалі 8 жніўня ў 5 гадзін раніцы. Раней настроілі GPS у тэлефоне і рушылі ў напрамку Варшавы. У сталіцы Польшчы мы былі між 7:15 а 8:00 раніцы, рухаючыся ў ранняй пробцы. Людзі ў Варшаву ехалі рабіць кар'еру, а мы — у напрамку польскіх гор.

За Варшавай у МакДональдсе з'елі сняданак і рушылі ў напрамку Лодзі. Як з Беластока ў Варшаву, так і з Варшавы ў Лодзь дарогі былі вельмі добрыя і па-за Варшавай пробак не было. З Лодзі мы падаліся ў напрамку Шлёнска цераз Чанстахову. Трэба сказаць, што Чанстахова не належыць да найпрыгажэйшых гарадоў Польшчы, а дарогі з Чанстаховы да Бытама і Катавіц слабейшыя, чым перад і за Варшавай і Лоддзю. Лёгка едучы цераз Шлёнск, мы накіраваліся на Кракаў. Перад Кракавам мы ўехалі на платную аўтастраду А4 (20 злотых у адзін бок на Закапанэ). За Кракавам кароткі перапынак на бутэрброды і далей у дарогу.

### «ЗАКАПЯНКА» — ДАРОГА Ў ЗАКАПАНЭ

За Кракавам пачалася славутая «закапянка» — дарога ў Закапанэ, якая мае больш за 70 кіламетраў. І тут паявіліся прыгожыя краявіды і пачаліся вялізныя пробкі. Турысты з усіх старон Польшчы, а таксама аўтамашыны з Нямеччыны, Аўстрыі, Чэхіі — усе едуць у Закапанэ.

Наш GPS у тэлефоне стараўся весці нас па вулачках, дзе меншыя пробкі, але пробкі былі ўсюды. Больш за 70 кіламетраў мы ехалі больш як дзве гадзіны! У час нашага марудлівага падарожжа «закапянкай» можна было ўжо захапляцца вельмі прыгожымі краявідамі чароўных польскіх гор, якія здаваліся вось-вось рукой падаць, а трэба было цярпліва праціскацца праз вузкія горныя дарогі. У далінах былі бачны вёскі гураляў. На дарозе трэба было быць вельмі ўважлівым, таму што тут можна спадзявацца ўсяго. Напрыклад, неспадзявана дарогу заехаў нам трактар з фурай сена. На шчасце да аўтакатастрофы не дайшло, але мы з жонкай наеліся страху. На «закапянцы» трэба быць вельмі асцярожным, паколькі горныя дарогі вузкія, крутыя, трэба ехаць або пад гару або спускацца з гары. Цяжка мінаць другую аўтамашыну, бо тут амаль няма тратуараў! Пры «закапянцы» шмат білбордаў з вялізнымі рэкламамі: найлепшыя кажухі толькі ў Закапанэ, афіша канцэрта Славаміра, аўтара хіта «Каханне ў Закапанэ», які цэлы год круцяць ва ўсіх польскіх радыёстанцыях, найлепшыя пластычныя аперацыі толькі ў Закапанэ, гуральскае рэгіянальнае піва «Цюпага» можна купіць у маркетах у Закапанэ. Па дарозе ў Закапанэ відаць шмат будаўнічых прац — будуюцца новыя дарогі, кальцавыя, масты і таму так шмат аўтамашын стаіць у пробках. Шмат будуецца таксама прыгожых гуральскіх хат — кватэр для турыстаў. Машыны пераважна на нумарах з раёна Малапольшчы, Вроцлава, захаду Польшчы, Гданьска, а машын з беластоцкімі нумарамі амаль няма. Калі мы з жонкай пабачым «белую варону» — BI, BIA або BBI — дык у іх напрамку махаем рукамі на прывітанне, як якія дзівакі.

### НАША ВЁСКА — ЦЫРХЛЯ

Дзякуючы GPS, едзем у вёску Цырхля, дзе будзем здымаць пакой. На месцы знаходзімся каля гадзіны 16:30. Семсот




кіламетраў амаль у 12 гадзін за рулём аўтамашыны. Вітае нас ветлівая гаспадыня на парозе прыгожай двухпавярховай кватэры. Адразу раскватароўваемся і заўважаем, што пры кожным ложку на століку ляжыць Біблія. Выданне на трох мовах: польскай, англійскай і нямецкай. Правяраю і аказваецца, што гэта Святое Пісанне Касцёла Гедэонавых братоў. Паводле Вікіпедыі Гедэонавы браты гэта пратэстанты-евангелікі. Іх абшчына паўстала ў 1899 годзе ў ЗША і гэта яны займаюцца распаўсюджваннем сваёй Бібліі ў гасцініцах, інтэрнатах, бальніцах. Распаўсюдзілі яны ўжо мільярд асобнікаў Святога Пісання ва ўсім свеце, а ў Польшчы мільён экземпляраў. Але мы тут не прыехалі перахрышчвацца ў пратэстанты ці чытаць Біблію, але проста з той

> **... там у краме рэгіянальных напіткаў купляем рэгіянальную самагонку для майго цесця. Пасля, калі вернемся ў Беласток і добра разглянем бутэльку, акажацца, што яе вырабляюць у... Старым Ляўкове на Падляшшы!**

самай мэтай як усе турысты: добра гуляць і наведваць нашы прыгожыя горы. Крыху пра вёску Цырхля — Cyrhla — там дзе мы затрымаліся. На гаворцы польскіх гураляў «cyrhlować» абазначае «пасвіць». І гэта нас не здзіўляе. На вёсцы якраз адбываецца сенакос. Малыя трактары — таксама вядомыя на Падляшшы рускія Т25 Уладзімірац або польскія Ursus 330 тут вельмі папулярныя — то косяць траву, то звозяць сена ў стадолы. Значыць, калі ў нас на Падляшшы адміраюць малыя гаспадаркі, дык тут маюцца яны вельмі добра. Пра «cyrhlowanie» таксама сведчаць статкі авечак, казуль ды кароў, якія пасвяцца на зялёных лугах, якіх тут многа. Як прыемна паглядзець на хатнюю жывёлу, якой на нашым родным Падляшшы штораз менш. Ідзем з жонкай у пошуках вясковай крамы. Па дарозе сустракаем шмат агратурыстычных кватэр і мясцовую гасцініцу. Калі ў вёсцы гасцініца, дык якая гэта вёска — гэта ж метраполія! Трапляем у мясцовы бар, дзе выпіваем піва, а пасля знаходзім вясковую краму «У Малгажаткі». Пасля пакупак вяртаемся ў кватэру. Трэба адпачыць перад заўтрашнім днём.

### ЗАКАПАНЭ — О (К) TOUR DE POLOGNE!

Чыстае вострае паветра не дазваляе нам доўга спаць і 9 жніўня пачынаем дзень у 7 раніцы. Пасля сняданку ідзем на аўтобусны прыпынак у Цырхлі і чакаем буса ў Закапанэ. Бус спазняецца амаль паўгадзіны. «Гэта норма» — суцяшае нас сімпатычны шафёр, які цэлую дарогу наракае на пробкі на дарогах у ваколіцах Закапанэ. Да Закапанэ ўсяго пару кіламетраў. Выходзім у цэнтры, робім здымкі пры надпісе «Zakopane». На месцы даведваемся, што ад гадзіны 10 да 16 закрыты ўсе вуліцы і не будуць ездзіць аўтобусы, таму што цераз Закапанэ едзе славуты Tour de Pologne. «O kurde z waszym Pologne!» — з насмешкай гавару сам сабе. Што робім? А ходзім там, дзе ўсе турысты: па Крупуўках — гандлёвым цэнтры Закапанэ. А тут прадаецца ўсё — рэгіянальная вопратка, цацкі, памяткі і славутыя горныя сыры — «oscypki», якія я каштую ў прадаўцоў. Да таго прадаюцца рэгіянальныя напіткі, кампактдыскі з гуральскай музыкай і ўсё, што заўгодна. На вуліцах Крупувак натоўпы турыстаў, асабліва арабаў, іспанцаў, немцаў, чэхаў, швейцарцаў і, вядома, палякаў. Едучы ў польскія горы, меў я сфармаваны, дзякуючы польскім масмедыям, стэрэатып польскага гураля як свойскага, сімпатычнага чалавека, а тут на месцы пераканаўся, што насамрэч ёсць зусім інакш. Гуралі не любяць таргавацца, стараюцца здзерці з турыстаў як найбольш грошай за свае прадукты. Прыкладам можа быць цана маленькага рукзачка для жонкі, які на Крупуўках каштаваў 75 злотых, а па-за Закапанэ я знайшоў такі самы за 25 злотых! На вуліцах Крупувак адчуваецца інтэнсіўны пах жывёльнага поту. Гэта коні. Менавіта іх найбольш жаль, бо гуралі возяць імі турыстаў. У гэтым вялізным натоўпе ды яшчэ ў гарачы, сонечны дзень коні вельмі стамляюцца. За гадзіну язды коннай брычкай трэба заплаціць 100 злотых. У натоўпе мноства людзей круціцца, шмат ашуканцаў і жулікаў, якіх шмат у Закапанэ. Напрыклад, цыганы прабуюць прадаваць турыстам ружы або проста ходзяць ад рэстарана да рэстарана і, іграючы на гармоніках, хочуць звярнуць увагу багатых турыстаў. І так мы ад крамы да крамы топчамся ў натоўпе, больш аглядаючы, а часам купляючы нешта на памятку для сямейнікаў.

Па абодвух баках вуліц на Крупуўках знаходзяцца карчмы — рэстараны з гуральскай ежай і напіткамі. У адну з іх заходзім, хаваючыся ад дажджу, які падае гадзіну. Нездарма раніцаю моцна пякло сонца, каб у дванаццаць гадзін дня пайшоў дождж. Прыгожыя маладыя афіцыянткі ў традыцыйных гуральскіх строях разносяць стравы ў сапраўды экспрэсным тэмпе. Мы свайго абеду чакалі няцэлых 10 хвілін. Смачны абед з дзвюх страў, да таго па два піва на дзве асобы каштаваў нас толькі 90 злотых, а наеліся дасыта. Афіцыянтка ветліва пытаецца нас як нам падабаюцца польскія горы. Мы кажам, што ў іх цудоўныя краявіды і нам усё падабаецца. Афіцыянтка з гордасцю сцвярджае, што яна гуралька і сваёй айчыны не замяніла б на іншае месца жыхарства. Мы стараемся як найдаўжэй пасядзець у карчме, адкуль відаць вуліцу, па якой ходзяць натоўпы арабаў — сапраўдны наезд з Усходу на 27-тысячны горад! Назіраем як суседу пры другім століку аж скрывіла твар. От, што робіць з людзей адзін кілішак моцнай гуральскай гарэлкі «Слівавіцы»! Мы спакойна п'ем піва. Пасля плацім рахунак і збіраемся ў цэнтр, дзе са сцэны вядзецца прамая трансляцыя для польскага тэлебачання. На сцэне пад такт фольк-музыкі танцуюць маленькія дзеткі ў гуральскай вопратцы, якіх падбадзёрваюць журналіст тэлебачання і натоўп турыстаў. Пасля на веласіпедах едуць велагоншчыкі. Пасля гадзіны можна прайсці на другую вуліцу. Там у краме рэгіянальных напіткаў купляем рэгіянальную самагонку для майго цесця. Пасля, калі вернемся ў Беласток і добра разглянем бутэльку, акажацца, што яе вырабляюць у... Старым Ляўкове на Падляшшы!

Потым ідзем з жонкай на пошту і высылаем сямейнікам паштовыя карткі. У 15 гадзін наведваем наступную карчму, каб выпіць піва. У 16 мы ўжо на аўтобусным прыпынку. Аўтобус замест у 16:30 прыязджае ў 17:10! А 18-й гадзіне мы на кватэры.

Тэкст і фота **Юркі БУЙНЮКА**

## Дэмаграфія Мілейчыцкай гміны

Мілейчыцкая гміна ў Сямятыцкім павеце займае плошчу ў 152 квадратныя кіламетры. Гэта дзясятая частка тэрыторыі павета. Яна мяжуе з Боцькаўскай, Чаромхаўскай, Дзядковіцкай, Кляшчэлеўскай і Нурэцкай гмінамі. Шчыльнасць насельніцтва — 13 чалавек на квадратны кіламетр.

У Мілейчыцкай гміне пражывае 1 999 чалавек у 21 населеным пункце. На 100 мужчын прыпадае 115 жанчын. Як вядома, жанчыны наогул даўжэй жывуць ад мужчын. У 2012 годзе ў гміне было 2 015 асоб. Найбольшыя вёскі ў гміне: Мілейчычы — 815 жыхароў, Паканева — 170, Валкі — 133, Паканева-Калёнія і Сабятына — па 114 ды Рагачы — 103 чалавекі.

Ад дваццаці да ста жыхароў налічваюць вёскі Харашчэва — 77, Харашчэва-Калёнія — 70, Навасёлкі — 61, Мікулічы — 56, Клімковічы — 45, Грабарка — 36, Лявошы — 35, Мядзвежыкі — 34, Белкі — 33, Баравікі — 31 і Любейкі — 23. Самыя малыя вёсачкі гэта Ялтушчыкі — усяго 7 жыхароў, Касцюковічы — 10, Галубоўшчына — 15 і Ханькі — 17.

Сёлета 19 верасня ў Мілейчыцкай гміне сотую гадавіну з дня нараджэння святкавала Серафіма Мікалаевіч з Мілейчыч. Ад імя рэдакцыі зычым юбілярцы здароўя і шчасця.

## У Беластоку больш новых кватэр

У Беластоку наглядаецца вялікае запатрабаванне на жылыя кватэры. І дзе як дзе, але тут — у ваяводскай метраполіі — ставяць і ставяць новыя жылыя будынкі. У 2016 годзе здалі ў карыстанне 69 жылых кватэр у блоку пры вуліцы Камісіі нацыянальнай адукацыі на пасёлку Бацечкі. Кошт гэтай інвестыцыі склаў суму ў 13 мільёнаў злотых. У гэтым шматсямейным будынку 69 кватэр велічынёй ад 36 да 64 квадратных метраў жылплошчы.

Нядаўна — 8 кастрычніка гэтага года — на гэтым пасёлку здалі ў карыстанне наступны невялікі будынак на 24 жылыя кватэры ад 36 да 64 квадратных метраў жылплошчы, апрача таго восем гаражоў і стаянку для аўтамабіляў. Будынак каштаваў 3,8 млн. злотых. У другім квартале 2019 года закончаць пабудову блока з 38 кватэрамі і стаянку на 38 аўтамабіляў. На пасёлку Бацечкі па вуліцы Камісіі нацыянальнай адукацыі будзе пабудаваных шэсць камунальных жылых блокаў, у якіх будзе 322 кватэры, будуць прадуктовыя крамы, чатырнаццаць паслуговых пунктаў і шаснаццаць гаражоў для легкавых аўтамабіляў. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Ірыней вырошчвае гарбузы-гіганты

Сямаццацігадовы Ірыней Бірыцкі жыве ў Гайнаўцы. Зараз вучыцца ў другім класе Сельскагаспадарчага тэхнікума ў Бельску-Падляшскім. У школу даязджае з Гайнаўкі. Шмат часу праводзіць у дзядулі і бабулі Юрыя і Аляксандры Ляшчынскіх у Новым Ляўкове Нараўчанскай гміны. Ён ужо трэці год займаецца вырошчваннем вялікай агародніны — перш-наперш вялікіх гарбузоў і памідораў. Да гэтага мае вялікую схільнасць, захапленне. А калі так, то мае ў гэтай галіне не абы-якія поспехі. Цешыць гэта ягоных бацькоў. Агародніну вырошчвае на палетку ў Новым Ляўкове.





Тэатр з Гайнаўскага Дому Культуры

Сёлета Ірыней Бірыцкі вырасціў на працягу ад 5 красавіка да 29 верасня аднаго габуза-велікана вагою 536 кілаграмаў ды другога 335-кілаграмовага. У мінулым годзе яго гарбузы важылі: адзін 520 кг, другі 150 кг. Насенне віду гарбуз Atlantic Gigant раслінавод мае ад замежнага сябра. У гэтым годзе прымяніў ён навінку — кропельнае абрашэнне гарбузоў. Зараз юнак з’яўляецца членам Польскага таварыства селекцыянераў вялікай агародніны. Плануе вырасціць гарбуза вагою 700 кілаграмаў. Гэты рэкордны вынік пры спрыяючых атмасферных умовах магчымы да атрымання. Гарбузы любяць перш за ўсё цяпло. Ірынею жадаем вытрымкі і поспехаў у абраным накірунку.

Тэкст і фота
Янкі Целушэцкага

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Асёл на вяселлі

Запрасілі асла ў палац на вяселле царскага сына.

Топча ён кругаля і ломіць галаву.

— Я ж не музыкант і не танцор! Як зараву — народ пападае. Ды дзе мне з капытамі на іхнія паркеты?

Таптаў асёл і паўтараў сваю песню:

— Я ж не музыкант, не танцор! Навошта мяне паклікалі? Гора, бяда мне!

А пасля адумаўся і кажа сам да сябе:

— А можа трэба, каб ім вады хто нанасіў, — павесялеў асёл, — або нейкі багаж на спіне ў палац завалок!

А вы як думаеце? Чаму запрасілі асла ў палац на вяселле царскага сына?

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

Віктар Шымук

## Колеры восені

Пафарбавала восень
Клёны
У колер жоўты
І чырвоны.

На спелых гронках
Арабіны —
Бялюткіх нітак
Павуціна.

А за сцяжынкай
Паглядзі ты —
Зялёнай руні
Аксаміты.

І немагчыма
Надзівіцца
На восень —
Цуда-чараўніцу...

## УВАГА КОНКУРС! № 42-18

З галінкі збіты ветрам
Ён на зямлю не лёг.
А кружыцца ў паветры,
Як жоўты матылёк.
Л...

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 28 кастрычніка 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 38: крот. Узнагароды, наклейкі, выйгралі Рафал Шумінскі, Мартына Ігнатовіч, Моніка Суровец, Мартына Барэвіч з Бабік. Віншуем!**

# «Падляшскі вянок»:
## Каб ступіць далей — нельга сядзець на месцы!

### Балгарыя

Танцавальны ансамбль «Падляшскі вянок», хоць восень, цвіце! Шмат задум танцоры прывезлі з Балгарыі. Менавіта мінулы школьны год нашы сябры завяршылі самавітай паездкай. Яны выступілі на XVI Міжнародным моладзевым фальклорным фестывалі ў Прыморску. Там прэзентаваліся калектывы з 11 краін свету:

— І мне здаецца, што мы







не былі горшымі, чым іншыя калектывы, — кажа Аксана Прус, мастацкі кіраўнік і душа «Падляшскага вянка». І дадае:

— Канешне, хацелася б яшчэ пашыць для нас новыя строі. Бо там былі калектывы, якія працуюць ужо 45 гадоў, ды яны што і раз змянялі строі...

Калі дзеці збіраліся ў дарогу, думалі, што будуць плаваць у моры. На месцы чакала вялікая праца: шэсць дзён працы — шэсць канцэртаў. І «Вечары сяброўства». Дзень пачыналі з рэпетыцыі. Праўда, быў час для купання, але пасля трэба было апрануцца ў касцюм і працаваць цэлы вечар. У час «Вечароў сяброўства» юныя танцоры прадстаўлялі беларускія і польскія танцы ды вывучалі танцы іншых народаў.

### Орля — Вэнгажэва

На сцэну выбеглі, так сказаць, проста з канікулаў:

— Некаторыя проста з самалёта выходзілі. І трэба было ўсё... хутка-хутка! Мылі касцюм, прасавалі і бягом на канцэрт — але далі рады, — успамінае спадарыня Аксана.

Першую рэпетыцыю правялі вечарам, другую ўжо на месцы, перад выступленнем.

Хоць адчувалі яшчэ ў касцях подых летняй ляноты, справіліся. На публіцы гаварылі пра іх: прафесіяналы!

Праз восем дзён выступалі ў Вэнгажэве. Спадарыня Прус прыкмеціла вялікую змену: дзеці былі ўжо ў добрай форме!

### Любімая Гародня!

У Гародні, родным горадзе спадарыні Аксаны, адчуваюць сябе як дома. Неўзабаве дадуць гадзінны канцэрт у школе з харэаграфічным ухілам. Замовілі таксама для сябе канцэрт дзяржаўнага ансамбля песні і танца «Белыя росы». Зоркі беларускай сцэны для іх выступяць з беларускай праграмай. Пасля пакажуць як апранаюць свае строі, у што абуваюцца, як падрыхтоўваюцца да канцэртаў. На канец зробяць агульны фотаздымак.

Мастацкія выступленні спалучаць з экскурсіяй. На другі дзень наведаюць Каложу, самую старажытную царкву Беларусі на беразе Нёмана. Замовілі тэатральную экскурсію ў Музей Максіма Багдановіча. Там будуць сустракаць іх постаці з эпохі паэта.

### Самі збіралі грошы

Поспех «Падляшскага вянка» заключаецца ў ангажаванасці і вынаходлівасці бацькоў. Выезд у Балгарыю каштаваў іх вялікія грошы. На сам транспарт трэба было назбіраць 8 тысяч злотых. Большую частку грошай выклалі са сваёй кішэні. Яны таксама знайшлі спонсараў. Падтрымалі іх Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, Управа Падляшскага ваяводства, Надлясніцтвы Жэдня і Крынкі, войты Заблудава і Супрасля ды фірма «MP Trade».

Частку сродкаў сабралі ў час канцэртаў.

— Але варта было! Мы прывезлі дыплом лаўрэатаў фестывалю, — адзначае спадарыня Прус. — Гэта першы наш міжнародны дыплом, дзе на англійскай і балгарскай мовах напісана, што мы лаўрэаты фестывалю.

Вельмі кранальна і прыгожа прайшла цырымонія ўручэння дыпломаў. Нашы сябры выйшлі ў нацыянальных строях, са сцягамі — бел-чырвона-белымі бела-чырвоным.

### Планы на бягучы год

У час зімовых канікулаў члены калектыву хочуць наладзіць танцавальныя майстар-класы. У планах выступленні на трох міжнародных мерапрыемствах. Хочуць паехаць на фестываль у Вэнгажэве, выступіць на Падляшскай актаве культур і на Міжнародных мастацкіх сустрэчах «Гродна — Беласток». Праз год зноў з'ездзіць у далёкае, экзатычнае падарожжа.

Трэба дадаць, што ў «Падляшскім вянку» ўжо 41 танцор. У старэйшай групе 12 пар. Гэта гімназісты і старшакласнікі. І хоць рэпетыцыі і выступленні займаюць шмат часу, ніхто з іх не кінуў танцаваць!

**ЗОРКА**

## Польска-беларуская крыжаванка № 42-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 38-2018:

Спорт, вуж, ар, дама, камета, верас, вежа, тры, морж, рот, ціш, адвага. Вырай, ну, вош, давер, замежжа, мера, плата, астра, рог, тры, жыта,

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Караліна Валентыновіч, Агата Пуцілоўская, Каміль Цілюлька, Караль Гелда** з Бабік, **Дам'ян Карнілюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

Zamieszanie
Aby
Towar
Planeta
Matka
Wąsacz
Lipa
Kadr
Sport
Brat
Kawałek
Tata
Pajęczyna
Rower
Anioł
Data
Oddział wojskowy
Piec
Wczoraj
No
Bierz
Chińskie imię
Uszka
Odnowa
Nie
Lot
Siła



# Кузніца між узгоркамі



**Кузніцу наведаў я летняй парою, а здымкі да апублікаванага нядаўна тэксту былі аж са жніўня 2010 года. Так спазніўся мой тэкст, а здымкі, лічыў я, не страцілі актуальнасці. Але ж, як заўважылі старажытныя грэкі — усё плыве...**

Вось надыходзіла сёлетняе свята Уздзвіжання і рашыў я наведаць нейкую царкву, дзе згаданае свята прыходскае. Заглянуў я на царкоўны партал па патрэбную мне даведку. А там паведамленне, што свята адзначаецца ў Андрыянках, Нарве, Вэрстоку, Фастах, Кажанах, Ялоўцы, Кузніцы, Пяценцы каля Заблудава і яшчэ ў некалькіх надта ад нас адлеглых мясцовасцях. Зацікавіла мяне менавіта Кузніца, а дакладней — колькі яшчэ вернікаў усходняга абраду збіраецца там на царкоўны фэст. Бо ж тамашнія вёскі, дзе такія вернікі могуць пражываць — Даўгасельцы, Мілінкаўцы, Кусцінцы, Вызгі ці Стараўляны — моцна апусцелі. Камунікацыя ў Кузніцу яшчэ даволі прыстойная — ездзяць туды не толькі цягнікі, але і аўтобусы: зручна туды заехаць і таксама без вялікіх клопатаў зручна адтуль вярнуцца. Гэты апошні фактар і вырашыў пра выбар майго маршруту.

У Кузніцу еду на аўтобусе. У Васількаве, як і ў шматлікіх нашых мясцовасцях, зараз перабудоўваюцца камунікацыі. Яшчэ некалькі гадоў таму цэнтрам гэтага даўняга горада каціліся караваны аўтафур. Зараз вялікі вонкавы транспарт вынесены за межы горада на выгадную для аўтамабільнага руху „экспрэсоўку". Цяпер у Васількаве спакайней. Аднак даўнюю дарогу, якая злучала калісь Беласток з Гродна, калі яна паспакайнела, сталі паступова перабудоўваць, увёўшы там адну кругавую развязку, а зараз паяўляецца і другая — акуратненька перад тамашняй царквою. За Васількавам хвілінка язды па згаданай „экспрэсоўцы", а далей па традыцыйнай у нас асфальтоўцы, якая чорненькай асфальтавай паласой паднімае і спускае машыны па тамашніх узгорках.

У Кузніцы злажу з аўтобуса на вулічным прыпынку. Насупраць чыгуначнага вакзала стрэлка дарожнага паказальніка інфармуе, што там таксама і аўтобусная станцыя. Але таго аўтобуснага прыпынку ўжо колькі гадоў там няма, аднак дарожная адміністрацыя мабыць пра гэта не ведае; магчыма, што і гмінныя ўлады не надта турбуюцца паказаннем праўды на сваёй тэрыторыі.

Кіруюся ў бок тамашняй царквы, што на аброслым дрэвамі ўзгорку, які ўжо ў вобрубе вёскі Войнаўцы. І бачу на царкве навізну — рыштаванні вакол купалаў. Калі прыходжу на месца, бачу, што тыя купалы ўжо новыя, зусім іншыя чым дасюлешнія, просценька крытыя бляхай. Новыя купалы пакрыты не моднай апошнім часам у нашых прыходах пазалотай, але цёмна-шэрымі лускаватымі пласцінкамі. Кузніцкія купалы выглядаюць цяпер вельмі арыгінальна — я нават пасмеў падумаць пра агульнае падабенства іх да купалаў славутай царквы Васілія Блажэннага, што побач маскоўскага Крамля. Праўда, маштабы тут іншыя, і іншыя выканаўчыя магчымасці, усё ж такі кузніцкая задума захапляльная.

Калі я думкай ужо звалачыўся ў Маскву, то варта там крыху запыніцца перад той захапляючай царквой на Чырвонай плошчы. Яе архітэктура давала натхненне іншым храмабудаўнікам, гэтаксама як мне падумалася пра абнаўляльнікаў кузніцкай царквы. Вакол перайманя гэтай арыгінальнай архітэктурнай задумы паўсталі асаблівыя легенды. Менавіта па Масковіі пайшла была вестка, што цар Іван Жахлівы, пры панаванні якога была ўзведзена царква Васілія Блажэннага, загадаў асляпіць будаўнікоў незвычайнага храма, бо дайшла да яго чутка, што хочуць яны збудаваць храм яшчэ прыгажэйшы. Магчыма, што гэта і было зроблена, але не ўсім, бо галоўны архітэктар будаваў пазней крэпасць у Казані... Расказваецца таксама, што Напалеон Банапарт, пабачыўшы пасля захопу Масквы гэтую царкву, зажадаў перанесці яе ў Парыж, а калі будаўнікі-спецыялісты патлумачылі яму, што такое немагчыма, загадаў падпаліць храм. Ужо ваякі запалілі квачы, але пайшоў лівень і царква ўратавалася... Бальшавікі таксама хацелі замахнуцца на гэтае архітэктурнае цуда і даручылі раскідаць царкву, аднак чалавек, які меў выканаць гэты загад заявіў, што лепш пойдзе сядзець у ссылку, а рукі на гэтае збудаванне не падніме; саслалі яго на пяць гадоў, але царквы больш не чапалі...

Шматкупальная царква Васілія Блажэннага была ўзведзена ў 1550-х гадах, неўзабаве пасля захопу Масквой Казані. Захопліваючы сталіцу Казанскага Ханства заваёўнікі спустошылі яе, у тым ліку высеклі ўсіх абаронцаў ды разбурылі тамашнюю галоўную мячэць Кул-Шарыф, якая была завершана васьмю купаламі. Мяркуецца менавіта, што пабачаная заваёўнікамі тая мячэць і стала прататыпам узведзенага ў Маскве храма. А адкуль была навеяна задума пабудовы тае мячэці? Можна меркаваць, што прыйшла яна з таго боку, з якога волжскія татары прынялі іслам; значыць з Блізкага Усходу, найверагодней з Багдада... Гэта даволі свабоднае меркаванне, бо дакладныя весткі пра пабудову адмысловай царквы не захаваліся, а здагадкі дапускаюць нават тое, што архітэктарам яе мог быць нейкі італьянскі майстар, бо тагачасныя менавіта заходнееўрапейскія гастарбайтары працавалі ў Маскве ў той час...

Тагачасныя войны былі разрушальныя, таму пра разрушаныя імі аб'екты не захаваліся ніякія ні карціны, ні эскізы, на іх тэму маглі паўстаць адно мастацкія ўяўленні, якія з рэканструкцыяй мінулай рэчаіснасці маглі не мець нічога супольнага. Вось на зломе XX і XXI стагоддзяў, ужо ў постсавецкі час, была ўзведзена ў Казані мячэць, якую назвалі гістарычнай назвай Кул-Шарыф. Гэта цалкам мадэрнісцкае збудаванне з чатырма гонкімі мінарэтамі, якія вельмі агульна можна асацыяваць з вежай беластоцкага касцёла святога Роха. І таксама вельмі агульна можна сказаць, што мастацкае ўяўленне колам коціцца.

Пра архітэктурныя вытокі маскоўскай царквы Васілія Блажэннага шмат што мяркуецца, не толькі пра імітаванне казанскай мячэці. Менавіта ёсць здагадка, што яна мела быць сімвалам нябеснага Ерусаліма, які, на падабенства зямнога, высіцца на сямі ўзгорках. Як Рым, які таксама на сямі ўзгорках, як і „трэці Рым" — Масква — таксама на сямі... Аднак царква пастаўлена на плане двух перасякаючыхся квадратаў, на вуглах аднаго з іх вышэйшыя купалы, а на вуглях другога — ніжэйшыя. Тыя купалы з ходам часу мянялі выгляд, набывалі арыгінальную афарбоўку. Цэнтральны купал пазалочаны, але бакавыя розныя — яны сімвалізуюць той нябесны Ерусалім у выглядзе саду, дзе адны дрэвы ў цвеце, іншыя ў лістве, а яшчэ іншыя ў спелых пладах...

Купалы кузніцкай царквы не размаляваны ў садавыя колеры, яны пакуль што шэранькія. І ў тамашнім „садзе" іх толькі два. Хаця Кузніца, так як Ерусалім, Рым ці Масква, таксама раскінута на ўзгорках. На адным з іх вось і тая царква. А пра іншы 37 гадоў таму так пісалі а. Рыгор Сасна і Мікалай Гайдук: „У гадах 1861-1864 тут праклалі лінію чыгункі Пецярбург — Варшава. Будаўнікі, а сярод іх былі і прадзеды сённяшніх войнаўцаў, саматуж, тачкамі перавезлі аграмадную Шыбенічную гару, што высілася над Кузніцай, і засыпалі ёю дрыгву над Ласасянкай, каб тудою змагла легчы чыгуначная каляя ў іншы свет. Раскопвалі гару ахвоча. Яна больш за трыста год была смяротным напамінам усім тым, хто спрабаваў супрацівіцца пануючаму ладу, — на ёй вешалі бунтароў...".

У іншым месцы тыя ж аўтары пісалі: „... назву Кузніцы дала рудня на рацэ Ласасянцы (левым прытоку Нёмана), у якой не толькі выплаўлялі з балотнай руды жалеза, але і выраблялі з яго рознае абсталяванне, прылады і ваенны рыштунак для адлеглага ўсяго на дваццаць кіламетраў гродзенскага замка. Распалажаная ў двух кіламетрах на поўнач ад Войнаўцаў вёска з назвай Кавалі гэтаму пацвярджэнне".

Яшчэ пра адзін кузніцкі ўзгорак варта прыгадаць. На ім распаложаны каталіцкія могілкі. Паколькі яны не абсаджаны дрэвамі, то з іх распасціраецца цёплая панарама Кузніцы і наваколля. З паўночнага боку могілкавага ўзгорка галоўная кузніцкая вуліца, з захаду Сакольская, з усходу Гродзенская, зараз даволі ціхенькая пасля некалькіх гадоў памежнага буму. Нават славутая крама, бадай „Бядронкі", дзе калісь прадавалі тэлевізары пакупнікам з-за ўсходняй мяжы, зараз спаглядае навонкі закрытымі аканіцамі. З другога боку могілак доўгая чарга аўтафураў на збудаванай у апошніх гадах аб'язной шашы няспешна чакае перасячэння граніцы, якая вырасла тут 74 гады таму. Не ўсім мясцовасцям удаецца раскінуцца на сямі ўзгорках, але ж і ў такіх можна нешта цікавае стварыць для захаплення мясцовых і прыезджых.

Рамонт кузніцкай царквы пачаўся ў канцы жніўня бягучага года, асноўныя працы, у тым ліку перакрыццё храма, будуць выканаваны сёлета; завяршэнне рамонту ў будучым годзе. А на прыходскае свята Уздзвіжання сабралася ў кузніцкай царкве даволі прыстойная колькасць народу — паўтара, а можа і дзве соткі. Спадзяваўся я, што будуць у яго ліку і нейкія старажылы, але ўсе святкавальнікі паказаліся мне народам пасляваеннага вываду...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# У здаровым целе — здаровы дух



■ Палатка Жаночага манастыра св. Альжбеты ў Навінках каля Мінска

«У здаровым целе — здаровы дух», — з такім лозунгам яшчэ ў цёплую вераснёўскую нядзелю гайнаўскае аддзяленне Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія арганізавала ў гарадскім амфітэатры ў Гайнаўцы «Фэст здароўя». Жыхары Гайнаўкі і навакольных мясцовасцей прыбылі ў амфітэатр, дзе з дапамогай лекараў і медсясцёр маглі спраўдзіць стан здароўя, даведацца аб прафілактычных працэдурах, якія могуць прадухіліць многа хвароб, купіць зёлкі, лякарствы натуральнай медыцыны, здаровае харчаванне, прынамсі так рэкламаванае, і духоўную літаратуру. На сцэне амфітэатра выступілі музычныя калектывы, прагучала многа беларускіх песень. Медработнікі паказвалі як ратаваць жыццё ў выпадку страты прытомнасці і распавядалі пра дзеянні, дзякуючы якім можна прадухіліць цяжкія хваробы. Многа людзей шпацыравала па парку паміж палаткамі і гарадком гульняў для дзетак. У канцы мерапрыемства амфітэатр запоўніўся народам і на сцэну выйшаў славуты беларускі калектыў «Прымакі», які не толькі займальна выступіў па-беларуску, але і сумеў заахвоціць гайнавян да актыўнага ўдзелу ў канцэрце.

Гайнаўскія братчыкі прапагандавалі здаровы лад жыцця, захвальвалі рух на свежым паветры, спажыванне здаровага харчавання, прафілактычныя праверкі здароўя ў лекараў і прапанавалі чытанне духоўнай літаратуры. У Гайнаўцы і яе наваколлі жыве многа людзей пенсіённага ўзросту, якія часта хварэюць і патрабуюць медыцынскай дапамогі. Штораз часцей пачынаюць лечыцца таксама асобы сярэдняга і маладога ўзросту і таму з кожным годам штораз больш людзей прыбывае на гайнаўскі фэст здароўя. Тут пераконваюцца, што варта загадзя дбаць пра сваё здароўе, каб пасля пазбегнуць прынамсі часткі хвароб. Фэст здароўя адкрылі старшыня Праваслаўнага брацтва святых свяціцелей Кірылы і Мяфодзія ў Польшчы Васіль Піўнік і старшыня гайнаўскага аддзялення брацтва Люцыяна Рушук. За ходам фэсту наглядаў духоўны апякун гайнаўскага аддзялення брацтва айцец Марк Юрчук. Да здаровага ладу жыцця, фізічнай актыўнасці і спажывання здаровых харчоў заклікаў вядучы мерапрыемства, ураджэнец Гайнаўкі, спецыяліст па візантыйскай музыцы Марцін Абійскі. Найстарэйшыя асобы ад пачатку мерапрыемства стаялі ў чэргах да палатак, у якіх правяралі стан свайго здароўя. Малодшыя больш цікавіліся здаровым ладам жыцця і прафілактыкай. Са сцэны амфітэатра прагучала многа беларускіх песень. Выконваліся таксама творы на іншых мовах і прэзентаваліся танцы ды інструментальная музыка.



■ Чарга ахвотных зарэгістравацца ў Банку донараў касцявога мозгу

У палатках працаўнікі Самастойнага публічнага прадпрыемства аховы здароўя ў Гайнаўцы правяралі ціск крыві і ўзровень цукру. Можна было таксама спраўдзіць зрок. Гайнавяне падыходзілі да дэрматолага, хірурга, педыятра і агульнага лекара, атрымлівалі адказы на пытанні па розных хваробах і прапановы, як іх лячыць. Жыхары Гайнаўшчыны таксама ганарова здавалі кроў і вучыліся, як аказваць першую дапамогу асобе, якая страціла прытомнасць. Выратавальнікі пераконвалі, што веданне, як аказаць першую дапамогу асабліва важнае, калі няшчасце здарыцца ў мясцовасцях адлеглых ад гарадоў, адкуль выязджае хуткая дапамога.

Першым на сцэне амфітэатра выступіў хор Пачатковай школы № 2 у Гайнаўцы, якога да выступу падрыхтавала апякунка хору і настаўніца музыкі Аліна Саевіч. Вучні выступілі са спецыяльнай праграмай і разам з настаўніцай запрашалі рэгістравацца ў Банку донараў касцявога мозгу, каб можна было знайсці донара для вучаніцы іх школы Олі, якая хварэе злаякаснай пухлінай.

— Арганізуючы фэст здароўя, мы прапагандуем здаровы лад жыцця і прэзентуем культуру ды традыцыі нашых продкаў. Прапануем дбаць пра здароўе душы і цела сумесна. Прапануем заняцца спортам, прафілактычна правяраць стан здароўя з дапамогай лекараў і чытаць духоўную літаратуру. Таму лозунг нашага фэсту гучыць «У здаровым целе — здаровы дух», — сказалі члены гайнаўскага аддзялення Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія.

— Гэта цудоўная ініцыятыва, якая прапагандуе дбаць пра сваё фізічнае і духоўнае здароўе, — гаварыў мужчына з Гайнаўкі. — Тут заахвочваюць нас дбаць пра цела і душу.

— Мы рашыліся выйсці да людзей, а паколькі ў брацтве дзейнічаюць працаўнікі аховы здароўя, таму нам лягчэй ладзіць фэст. Звычайна людзі неахвотна ходзяць да лекараў, каб спраўдзіць стан свайго здароўя, таму прапануем праверку здароўя падчас фэсту. Стараемся, каб кожны наведвальнік фэсту знайшоў для сябе нешта цікавае наконт фізічнага і духоўнага здароўя, — заявілі члены гайнаўскага брацтва.

— Прапануем лячэбныя зёлкі, натуральныя бальзамы, мыла, касметыку. Нашымі мазямі можна лечыць хваробы, — удакладніла манахіня Жаночага манастыра святой Альжбеты ў Навінках каля Мінска, дзе дапамагаюць хворым таксама некалькі манахінь родам з Гайнаўкі.

Падчас фэсту можна было купіць гарбаткі, састаўленыя паводле рэцэптаў айца Гаўрыіла з пустэльні на паўвостраве Кудак. Выдавецтва «Братчык» з Гайнаўкі прадавала духоўную літаратуру. Дэкан бельскай акругі і настаяцель Міхайлаўскага прыхода ў Бельску-Падляшскім мітрафорны протаіерэй Лявонцій Тафілюк запрэзентаваў са сцэны кніжку Сяргея Бубноўскага «Сто гадоў актыўнага жыцця».

— Калі я захварэў, наведаў адзін з інстытутаў Сяргея Бубноўскага ў Маскве і там падрабязна даведаўся, як жыць у адпаведнасці са здаровым ладам жыцця і навучыўся, якія практыкаванні і як выконваць, каб вярнуць сабе здароўе. Калі стаў я жыць і займацца паводле ўказанняў Сяргея Бубноўскага, выздаравеў і зараз прытрымліваюся гэтага ладу жыцця і нават зімой іду на панадворак і цэлы акунаюся ў ледзяную ваду, каб з прымяненнем воднай тэрапіі захоўваць здароўе. Пераклаў я на польскую мову кніжку Сяргея Бубноўскага «Сто гадоў актыўнага жыцця», якую выдала гайнаўскае выдавецтва «Братчык». Цяпер ахвотныя могуць пачаць выконваць нескладаныя і даступныя нават людзям у васьмідзесяцігадовым узросце практыкаванні і такім чынам памяняць свой лад жыцця на згодны з указаннямі Сяргея Бубноўскага, — распавядаў а. Лявонцій Тафілюк.

На сцэне займальна запрэзентаваўся духавы аркестр, якім кіраваў яго апякун і дырыжор Кшыштаф Раманюк. Аркестр дзейнічае пры Дзяржаўнай пажарнай ахове ў Гайнаўцы. Сабраным спадабаліся таксама выступленні хору «Васлікнавенне» з Гайнаўкі, вучняў Студыі песні ГДК і сучасныя танцы. Цікавым быў «Конкурс ведаў аб вадзе», у якім гайнавяне адказвалі на пытанні аб значэнні вады ў жыцці чалавека. Узнагароды пераможцам уручыў стараста Гайнаўскага павета Міраслаў Раманюк, які звярнуў увагу на вялікае значэнне вады ў прыродзе. Да Конкурсу «Мастацтва з агародніны і фруктаў» прыступілі асобы, якія здаўна выконваюць такі від прадуктаў.

— Прадукты выкананыя на конкурс з агародніны і фруктаў — арыгінальныя. Сабралі мы ўжо каля 20 такіх прадуктаў, якія будзе ацэньваць конкурсная камісія. Нашы жанчыны прынеслі таксама прадукты з агародніны і фруктаў для паспрабавання, — сказала намесніца дырэктара Пачатковай школы ў Нарве Марыя Ляшчынская. Узнагароды пераможцам конкурсу «Мастацтва з агародніны і фруктаў» уручыў бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак.

Перад публікай удала спявала Юліта Кічкайла з Майстэрні працатэрапіі ў Гайнаўцы. На фэст прыехала яе настаўніца Агнешка Андраюк, якая са сцэны запрашала далучыцца да ініцыятывы «Пазітыўна закручаныя» і прыняць удзел у вялікім мерапрыемстве, арганізаваным у рамках гэтай ініцыятывы ў Гайнаўцы.

— Я захапілася ініцыятывай «Пазітыўна закручаныя» дзякуючы Лаўры Казоўскай, якая здолела паднiцца з вельмі дрэнных абставін жыцця, у якіх апынулася. Мы ў рамках ініцыятывы заклікаем не здавацца, калі спасцігне нас няшчасце і, трымаючыся лозунгу «Маё жыццё ў маіх руках», заўсёды станоўча думаць наперад і верыць, што дзякуючы розным ініцыятывам заўсёды зможам перамяніць сваё жыццё на лепшае. У Гайнаўцы будзем прапанаваць жыхарам рознага роду актыўнасць, каб тыя паверылі, што можна перамяніць жыццё — асабістае і навакольнае — на лепшае, — распавядала Агнешка Андраюк.

У час фэсту дашкольнікі і наймалодшыя вучні гайнаўскіх школ бегалі за здароўе навыперадкі, з падзелам на хлапчукоў і дзяўчат. Тром пераможцам, якія першымі прыбеглі ў амфітэатр, сам славуты гайнаўскі марафонец і апошнім часам хадун Аляксандр Пракапюк уручыў медалі. Іншыя бегуны атрымалі памятныя медалі і апладысменты ад публікі. Дарослыя гайнавяне прынялі ўдзел у «Конкурсе ведаў аб здароўі», а дзеткі прынялі ўдзел у мастацкім конкурсе «Успаміны з канікулаў» і займаліся з аніматарамі ў парку. Самым займальным атракцыёнам для наймалодшых дзетак быў гарадок гульняў, з якога бацькам складана было адцягнуць сваіх дачушак і сынкоў нават перад надыходам вечара.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**

Лёс беларусаў Беласточчыны

# Унучка Трахіма Хомкі прыгадвае

■ Надзея Мялейка (Хомка) распавядае

■ Надзя Хомка з мужам у Архангельску

У Дзятлаве па вуліцы Фрунзе жыве з сям'ёй Надзея Мялейка. Жанчыне толькі 57 гадоў. Але яна памятае яшчэ свайго дзеда Трахіма Хомку і бабулю Фёклу. У дзядулі з бабуляй былі два сыны — Андрэй і Валодзя, і дзве дачкі — Надзя і Валя. Усе яны былі праваслаўныя беларусы з Бельска-Падляшскага. А Андрэй Хомка — гэта бацька Надзеі.

— Я добра памятаю дзеда Трахіма, які быў родам з Беласточчыны. Бабулю Фёклу памятаю хворую, яна ляжала ў ложку, — прыгадвае ў Дзятлаве Надзея Мялейка. — Як распавядаў мне мой бацька, пасля вайны іх палякі выгналі з Бельска. Што паспелі, усё пагрузілі ў вагон і прыехалі ў Наваельню на Дзятлаўшчыну. А потым пасяліліся ў вёсцы Нарбута-

праця̆г ☞ 11

■ Сям'я Трахіма Хомкі. Трахім Хомка ў цэнтры з унукам Міколкам. Дзятлава, 1950-я гады. На сцяне вывешаны радзюжкі, прывезеныя з Беласточчыны

Зорачкі

Гадуем маленькіх беларусак і беларусаў

http://zorachki.by

У той час, калі лукашэнкаўскія ўлады пачалі новы наступ на беларушчыну, назваўшы беларускі горад Магілёў рускім і тым самым падбухторваючы агрэсіўнага суседа да захопу беларускай зямлі, у Беларусі робяць сваю беларускую справу людзі, якія не з'яўляюцца савецкімі вычварэнцамі і манкуртамі. Да іх без перабольшвання можна аднесці тых, хто спрабуе прышчапіць беларушчыну малым дзецям. Робяць гэта стваральнікі дзіцячага клуба „Зорачкі", што існуе ў Мінску.

„Гадуем маленькіх беларусаў і беларусак", — такі надпіс месціцца на галоўнай старонцы сайта клуба, які можна знайсці ў інтэрнэце па адрасе **http://zorachki.by**. І гэта пацвярджаецца тым, што, як далей пішуць уладальнікі клуба і выхавацелі, усе іх заняткі праходзяць на роднай мове. „І нават тыя дзеткі, што яшчэ не валодаюць беларускай, даволі хутка засвойваюць яе, пачынаюць карыстацца ў штодзённым жыцці. У нашым садочку дзеткі папаўняюць свой слоўнікавы запас, засвойваюць чытанне, пісьмо, ствараюць свае першыя сшыткі і кнігі", — адзначаецца на галоўнай старонцы.

Паводле пададзенай на сайце інфармацыі, дзяцей таксама навучаюць і англійскай мове, беларускім песням, займаюцца з імі матэматыкай, кулінарыяй, арт-тэрапіяй, спортам і іншым. Цікава, што дзецям яшчэ распавядаюць пра Біблію. „Гэты курс (Біблія — заўв.) заснаваны на дабрачынных ідэях. Тут мы гутарым пра павагу да бацькоў, любоў да ўсяго жывога, адказнасць, міласэрнасць і смеласць. Як нам, людзям, жыць на Зямлі, пакідаючы за сабой толькі добры след", — адзначаюць выхавацелі.

Шмат каму можа падацца, што дзеці рознага веку не мусяць займацца ў адной групе. У „Зорачках" лічаць па-іншаму, спасылаючыся на педагагічную сістэму Марыі Мантэсоры. Гэтая сістэма заснавана на ідэях вольнага выхавання, дзе значнае месца аддадзена развіццю органаў пачуццяў пры дапамозе дыдактычных заняткаў і адмыслова арганізаванаму асяроддзю. „Дзеці, якія займаюцца ў змешанай узроставай групе, вельмі таварыскія, сацыяльна актыўныя і адказныя людзі. Бо менавіта ў дзяцей рознага ўзросту, ёсць шанец вучыцца так шмат адзін ад аднаго. Дзеці не сканцэнтраваны выключна на адной ролі, што карысна ў фарміраванні іх асобы, і максімальна набліжаны да рэальнага соцыуму. Такім чынам знікае патрэба быць ва ўсім першым, канкурэнцыя паміж аднагодкамі скарачаецца, праблемы, характэрныя для групы аднагодак у нас амаль не з'яўляюцца", — сцвярджаюць выхавацелі.

Разам з тым у клубе ўсё ж існуе падзел дзяцей па ўзросце. Там створаны чатыры ўзроставыя групы: група „Разам з мамай" (1-3 гады), рознаўзроставая інклюзіўная група, малодшая група (3-4 гады) і старэйшая група (5-7 год).

Зразумела, што на сайце дзіцячага клуба, які зацікаўлены ў прыцягненні новых выхаванцаў, будуць водгукі бацькоў тых дзетак, што там навучаюцца ці навучаліся. Канешне, гэтыя водгукі спрэс станоўчыя — рэклама ёсць рэклама. Пазнаёміцца з імі можна ў аднайменнай рубрыцы „Зорачак".

А вось з чым нельга пазнаёміцца на сайце, то гэта з коштамі на навучанне дзяцей. Сёння ў Беларусі дзіцячыя дашкольныя навучальныя ўстановы платныя, і малаверагодна, што ў „Зорачках" плаціць не трэба. Аднак інфармацыя аб аплаце чамусьці адсутнічае.

❖ Аляксандр ЯКІМЮК

Дата з Календара

Падзеі і асобы БНР

## 100 гадоў з часу стварэння Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў

Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў утварылася ў час БНР і дзейла да 1924 г. Яна пачала фармавацца яшчэ ў красавіку 1918 г. Ініцыятарам стварэння БПСР была народніцкая група на чале з Тамашам Грыбам і Палутай Бадуновай, якая выступіла супраць правага крыла ЦК Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ) за яго падтрымку германскай арыентацыі Рады БНР і заявіла пра сваю аўтаномію ў рамках БСГ.

Прадстаўнікі групы выйшлі з Народнага сакратарыята БНР і ў траўні 1918 г. заявілі пра стварэнне БПСР. Кіруючае ядро партыі склалі выхадцы з БСГ: Марк Асвяцімскі, Палута Бадунова, Тамаш Грыб, Лявон Заяц, Аляксандр Карач, Яўген Ладноў, Язэп Мамонька, А. Маркевіч, Сцяпан Некрашэвіч, М. Пашкевіч, У. Русак, Я. Трафімаў, Янка Чарапук, Фабіян Шантыр, Мікола Шыла ды іншыя. Пазней да іх прымкнулі Вацлаў Ластоўскі і Аляксандр Цвікевіч.

Друкаванымі органамі партыі БПСР былі «Беларуская думка», «Грамадзянін» (Вільня), «Родны край» (Гродна), «Наша каляіна» (Слуцк), «Змаганне» (Мінск). У Мінску, Гродне і Вільні дзейлі губернскія камітэты БПСР. У ліпені 1920 года партыя налічвала больш за 20 тысяч сяброў, у тым ліку 5 тысяч партыйных функцыянераў. Кіравала дзейнасцю Грамады моладзі (10 тысяч членаў), Сувязі беларускага сялянства (20 тысяч), кантралявала Усебеларускі настаўніцкі саюз, Гродзенскую сялянскую раду.

З самага пачатку свайго існавання БПСР пачала прэтэндаваць на авангардную ролю ў беларускім грамадска-палітычным руху. У аснове тактыкі БПСР была праграма БСГ. У нацыянальным пытанні БПСР адмовілася ад ідэі БСГ пра тэрытарыяльную аўтаномію Беларусі ў межах Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі і адназначна выказалася за ажыццяўленне права вольнага самавызначэння за ўсімі народамі былой царскай імперыі, пры якім асноўныя законы і формы ўлады вызначыў бы Усебеларускі ўстаноўчы з'езд. Хоць партыя дапускала наладжванне федэратыўных адносін Беларусі з Расіяй, вырашэнне гэтага пытання яна разглядала ў кантэксце перамогі сусветнай рэвалюцыі і ўтварэння сусветнай федэрацыі.

Да восені 1918 г. БПСР значна пашырыла свой уплыў на сялянскія масы, замацавала палітычныя пазіцыі на акупаванай германскімі войскамі тэрыторыі Беларусі. ЦК партыі прымкнуў да паўстанцкага руху, спрабаваў усталяваць кантроль над партызанскімі атрадамі ў Мінскай і Гродзенскай губернях. Тут дзейлі «сялянскія дружыны», якія пазней былі зведзены ў Сувязь беларускага працоўнага сялянства. Яны ў асноўным выконвалі функцыі атрадаў самаабароны — змагаліся супраць бясчынстваў нямецкіх акупацыйных улад.

У кастрычніку 1918 г. ЦК БПСР выдаў адозвы «Час прабіў — далей чакаць нельга» і «Што рабіць». У іх ён заклікаў беларускіх сялян, рабочых і народную інтэлігенцыю правесці на ўсёй тэрыторыі Беларусі выбары ў мясцовыя валасныя, павятовыя і губернскія Саветы і па меры іх фармавання перадаць ім усю паўнату ўлады. ЦК заклікаў таксама правесці Другі Усебеларускі з'езд, які і павінен быў ад імя беларускага народа замацаваць незалежнасць БНР. Аднак ажыццявіць задуманае не ўдалося. У час адыходу нямецкіх войск з тэрыторыі Беларусі кіраўніцтва БПСР высунула лозунг барацьбы супраць двух акупантаў — Германіі і Расіі. Далей палітычная сітуацыя развівалася не на карысць партыі і ўвогуле Беларусі. Пазней многія лідары партыі патрапілі пад савецкія рэпрэсіі.

❖ Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

10 ☞ працяг

## Унучка Трахіма Хомкі...

вічы Дзятлаўскага раёна. З цягам часу пераехалі ў Дзятлава, дзе пабудавалі свой уласны дом.

— Што захавалася і што яшчэ памятаецца з прывезенага з Беласточчыны?

— Памятаю вялікую, чорную, рагатую карову. Яе таксама прывезлі з Беласточчыны. Карова заўсёды нараджала двое цялят.

— Як склаўся лёс вашых цётак і дзядзькі Валодзі? — пытаюся ў спадарыні Надзеі.



■ Трахім Хомка з жонкай Фёклай, дачка Валя і сын Андрэй. Дзятлаўшчына, 1950-я гады

— Цёткі засталіся жыць у Беларусі, а дзядзьку Валодзю лёс закінуў ажно ў Архангельск у Расію. Там ён ажаніўся, але дзяцей не было. Потым дзядзька шкадаваў, ён казаў: „І чаго мяне загнала ў той Архангельск?”.

— А ці засталіся ў вас сваякі на Беласточчыне?

— Засталіся. Стрыечныя брат і сястра бацькі — Вольга і Юрась Паланюкі. У 1980-х гадах мы ездзілі да іх, гасцілі там тыдзень. Праўда, цяпер іх ужо няма ў жывых.

— А ці захаваліся ў вас фотаздымкі з Беласточчыны?

— Няма, ёсць толькі сямейныя фотаздымкі таго часу, як толькі мы пакінулі Бельск і прыехалі на Дзятлаўшчыну.

Надзея Мялейка дастала з шуфлядкі некалькі старых здымкаў іх сям'і, якія я пераздняў на фотаапарат і прапаную чытачам „Нівы”.

❖ **Сяргей ЧЫГРЫН**

# Засталіся адно ўспаміны (45)

Дзень заручын застанецца ў маёй памяці як дзень развітання з кавалерскім станам, бо давалі яны мне іншы погляд на жыццё. Мне пайшоў дваццаць дзявяты год і трэба было задумацца над сваёй будучыняй. Бацька пакінуў нас на шэсцьдзясят трэцім годзе жыцця. Паўтара года канцлагераў адмоўна паўплывалі на яго здароўе. У час яго адсутнасці заставаліся мы пад апекай параненай матулі ды старэнькай бабулі — бацькавай маці Марыі. Многа нацярпеліся мы голаду ды холаду. А светлай памяці татуль маўляў: «Хто не спазнаў бяды, не ведае, што гэта гора». І я, сядзеўшы за багата застаўленым сталом у Дубяжыне, успомніў сваё дзяцінства ды юнацкія гады. А трэба сказаць, што мая першая сустрэча з гаспадарамі і будучай нявесцай давалі від, што яны — станоўчыя і разважлівыя людзі. І гэта неўзабаве выявілася. Калі я намякнуў, што небагата нам вядзецца і цяжкавата прыйдзецца з падрыхтоўкай вяселля, бацька Ганулі, Сцяпан Іванавіч, сказаў: «Пра гэта не хвалюйцеся. Кошты з гэтым звязаныя нам пакіньце». Такой жа думкі і была матуля, Анна Сцяпанаўна, якую дубяжынцы называлі Гануляй Краснасельскай: «Мы за ўсё паклапоцімся».

Калі я напамянуў, што царкоўнага шлюбу не будзе, адно «цывільны», а рытуал царкоўнага вянчання адзначым на Юр'е, 6 траўня, у дзень шлюбу брата Віктара, са сваімі гасцямі, дык і на гэта другі бок пагадзіўся.

— А да нас гасцей прысылайце, каго бачыце патрэбным, — сказаў «бацька вясельны». — Мы падашлем фуры на прыпынак у Падбелле. Не турбуйцеся...

Перагаворы закончыліся. Заставалася пакрысе рыхтавацца да асноўнай імпрэзы — распіскі ў ЗАГСе. А гэта рашылі зрабіць у Кляшчэлях. Калі я вярнуўся з камандзіроўкі дамоў і абвясціў навіну сямейнікам, дык ніхто не выявіў здзіўлення. Матуля адно цешылася.

— Нарэшце штосьці канкрэтнае прыдумаў, — сказала з усмешкай.

Развітанне з кавалерскім станам лічу адной з важнейшых падзей у сваім жыцці кіношніка. Але і яшчэ адна незвычайна падзея засталася ў маёй памяці з таго часу. Было гэта пад восень 1965 года. У час напружаных адносін паміж Польшчай і Нямеччынай 34 польскіх біскупаў паслала ліст да нямецкіх біскупаў. У ліку падпісантаў былі кардынал Стэфан Вышынскі ды біскуп Караль Вайтыла. Біскупы напісалі: «прабачаем і просім прабачэння». Пасланне было ўручана 18 лістапада 1965 года ў дзень Ватыканскага сабора. Гэта была першая гістарычная ініцыятыва накіравана дзеля пагаднення ды наладжання на аснове праўды станоўчых адносін паміж дзяржавамі пасля Другой сусветнай вайны. Памятаю, што ў Драгічын меў прыехаць кардынал Вышынскі. Сустрэча была назначана на граніцы Буга каля вёскі Танкелі. Ваяводскі камітэт партыі ў Беластоку рашыў зрабіць закалот у грамадстве і паменшыць прысутнасць народу ў час сустрэчы кардынала ў Драгічыне. Дзеля таго ВК загадаў Ваяводскаму праўленню кіно пасласць дзевяць кінаперасовак у наваколле Драгічына, якія тры дні бясплатна мелі дэманстраваць хадавыя кінакарціны для людзей. Варта адзначыць, што ў гэтым часе міліцыя кантралявала ўсіх, хто падаваўся ў раён Драгічына. Адно дзевяць аўтамабіляў кінаперасовак маркі «Люблін» лічыліся прывілеянымі машынамі. Наша брыгада была накіравана ў Танкелі. Памятаю, што калона з дзевяці аўтамабіляў, з камінкам над дахам, выклікала незвычайнае відовішча для цікаўных людзей па ўсім маршруце.

Спыніліся мы побач Клуба селяніна. Паколькі да гэтага часу кінаперасоўка не заязджала ў сяло, дык людзі першы дзень недаверліва вокам паглядалі на нас. Нават чуліся з'едлівыя намёкі: «Ведаем, з якім намерам вас паслалі». Мы гэты закід абвяргалі, казалі, што будзем заязджаць штомесячна. А на другі дзень нашага прабывання парачка закаханых пачаставала нас «урадзіновым пачастункам». Але мы больш у Танкелі не паехалі ды не сустрэліся са знаёмымі. Выканалі адно палітычны загад ВК ПАРП і ВПК. Гэтакі ўспамін застаецца па сённяшні дзень у маёй памяці, таксама як і дубяжынскія заручыны.

(працяг будзе)

❖ **Уладзімір СІДАРУК**

# 21.10 — 27.10

**Баран (22.03. — 20.04.)** Будзь асцярожны, не палі за сабой мастоў, бо яшчэ не раз прыйдзецца табе праз іх праходзіць. У хаце хутка апануеш сітуацыю, нават калі трэба будзе на кагосьці накрычаць.

**Бык (21.04. — 21.05.)** Неспрыяльны ўплыў Венеры ў апазіцыі да Урана прынясе нецярплівасць, недахоп зразумення, лішняя ўзбуджанасць, схільнасць да рызыкі. Шыкуецца спелае пачуццё, хоць без феерверкаў.

**Блізняты (22.05. — 22.06.)** Аслабленая чуйнасць. Старайся быць аб'ектыўным, бо можа засляпіць цябе нейкая ідэя, што страціш здаровы розум. Самотны Блізнюк пераканаецца, што залюбляецца толькі ў такі самы тып чалавека, што не дае яму шчасця.

**Рак (23.06. — 23.07.)** Прабудзяцца ў табе творчыя сілы. Будзеш пільны, дакладны, празорлівы. Нішто не ўцячэ тваёй увазе. Можаш змагацца з пачуццямі — ад гарачага кахання, да палкай нянавісці.

**Леў (24.07. — 23.08.)** Будзеш капрызлівы і празмерна ўражлівы. Гайданка настрояў. Больш адпачывай, больш часу аддай блізкім. 26.10. прафесійныя справы абярнуцца ў іншы бок. Не будзеш задаволены, над шмат якімі справамі можаш не мець кантролю.

**Дзева (24.08. — 23.09.)** Можаш трапіць на вока камусьці, хто і табе спадабаецца. Можаш шмат што здабыць, ды не ідзі напрасткі. Будзь па-над трывіяльнымі канфліктамі, старайся дагаварыцца з людзьмі.

**Шалі (24.09. — 23.10.)** Магчымы стрэс, праблемы дагаварыцца з людзьмі, прыстасаваннем да атачэння. Магчымасці падзарабіць. У каханні не ўсё можна запланаваць, а тое, што сустрэне цябе, пяройдзе ўсе магчымыя чаканні.

**Скарпіён (24.10. — 22.11.)** Да 22.10. твая харызма мае вялізную моц! 26.10. пералётныя непаразуменні ў пары. У нервах можаш сказаць партнёру штосьці прыкрае, ды пасля буры засвеціць зноў сонца. Грашыма шастаеш направа і налева.

**Стралец (23.11. — 22.12.)** Распуснасць можа падвергнуць цябе плёткам і фінансавым стратам. Вялікі апетыт на жыццё і прагу панавання падмацуеш кашальком і новай электрызуючай любоўю.

**Казярог (23.12. — 20.01.)** Пачуццё стабільнасці, спакой. Інтуіцыя і добрыя выпадкі прынясуць поспехі. Зайграй у Мульцілётак-плюс. Варта выбрацца ў падарожжа. Сяброў можаш убачыць у новым святле.

**Вадалей (21.01. — 19.02.)** Агністы раман можа кончыцца драматычным расстаннем. Не вытрымаеш зайздрасці, крайніх настрояў партнёра і ўрэшце скажаш «хопіць!». Штораз большае значэнне маюць для цябе духовыя справы. Звышапякунства бацькоў, асабліва маці.

**Рыбы (20.02. — 21.03.)** Планаваная замежная экскурсія вельмі ўдалая. Будзеш адкрыты на мужчынска-дамскія кантакты. Падтрымка хатніх, ды не ў рызыканцкіх ідэях. Добрыя выбары з мінулага прынясуць цяпер плён. Крытыканы будуць зайздросціць табе адвагі і арыгінальнасці.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

| | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 | | | | | | | | | | | |
| | 3 | | | | | | | | 4 | 5 | | | 6 | | | | 7 |
| | 8 | | | | | | | 9 | | | | | 10 | | | | |
| | | | 11 | 12 | | | | 13 | | | 14 | | | 15 | | | |
| | | | | | 16 | | 17 | | | | | | | | | | |

**1.** прозвішча амерыканскіх прэзідэнтаў з канца XX і пачатку XXI стагоддзяў, **2.** месца для гандлю, **3.** раённы горад на поўдні Віцебскай вобласці, **4.** прадукт размолу збожжа, **5.** французскі паўвостраў, у які... Анды, **6.** паравы лакаматыў, **7.** цвіце ў Купальскую ноч, **8.** цвіце ў ліпені, **9.** адзінка чхання, **10.** левы прыток Амура, **11.** пеўчая птушка атрада вераб'іных, **12.** стройная жывёліна сямейства аленевых, **13.** выаралі яго хлопцы ў полі, **14.** круглае збудаванне для наклейвання афішаў, **15.** дзіцячае рухальнае прыстасаванне ў выглядзе планкі на двух колцах з рулём, **16.** частка рукі ад запясця да канца пальцаў, **17.** колішняя мэбля для сядзення ў выглядзе шырокай дошкі на ножках.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 39 нумара**
Ветка, вярба, дына, кесон, ніць.

Рашэнне: **Адна кветка не робіць вясны**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

Цуд ёсць цуд.

Няма сэнсу ў ім калупацца, тлумачыць. Нават калі перад вачыма бачыш гатовы праект знішчэння, у якім відавочны матэрыяльны прыбытак злачынцаў, і з недаверам падумаеш пра веру і цудоўныя з'явы. Вось на працягу дзвюх гадзін паліцаі забралі ў бацькоў дзяцей, сагналі з хлявоў коней, кароў, свіней, курэй. Усё адбылося гладка, машынальна. Людзі і жывёла былі заранёў дакладна спісаны і падлічаны, назначаны лічбы і колькасць ахвяр, скалькуляваны і пасартаваны. Прамовіла дакладнасць, гаспадарнасць, парадак...

Усё гэта прамаўляла як камуфляжная заслонка, за якой хаваліся нямы боль і роспач прыгавораных на смерць людзей, бразгат разбітай пасуды і шкла, сокат лоўленых курэй, плач немаўлят, жаласнае скавытанне сабак...

— І я прасілася на гэты божы свет, — скажа з пэўным недаверам Вольга Саевіч.

Маці пачала нараджаць на світанні, разам з брэхам сабак, якія першымі знюхалі надыход акупантаў. Неўзабаве яны ўварваліся на панадворкі, павыганялі з хат людзей і сагналі на сход. Шакіраваны народ стоўпіўся на невялічкім вясковым пляцы. Цягам чарговых хвілін пачулі смяртэльны прыгавор. Абвінавацілі іх у дапамозе савецкім партызанам, якія ў пачатку верасня 1942 года спусціліся на парашутах непадалёк Ражкоўкі. З іх рукі загінула двух немцаў. Згодна з акупацыйным законам, смерць аднаго немца каштавала жыццё сто мірных жыхароў. Праўда, у кашмары татальнай помсты прасочваўся праменьчык змілавання. Ад расстрэлу адхілілі дзяцей ва ўзросце ад 1 да 11 гадоў і моладзь, назначаную да вывазкі ў Нямеччыну. За іх ацаленне бацькі мусілі адплаціцца назначанай колькасцю жывёлы. На выкананне загадаў далі дзве гадзіны...

І зараз кожны кінуўся на свой панадворак, увіхаўся як апараны, спяшаўся ратаваць дзяцей. Маці спадарыні Вольгі не паспявала з работай. Невыносны боль жывата і *схваткі* абмяжоўвалі хаду, паралізавалі крокі, перакідалі з ног. Душу муціў крык двухгадовай сястры, якая залілася неўтаймаваным, горкім плачам. Агаломшаная болем парадзіха туліла яе да набрынялых грудзей, шаптала словы суцішэння, гушкала на руках...

У сямейных расказах часта згадвалі балючы момант развітання. Перад тым, як пагоняць бацькоў на расстрэл, паліцай сілком выхапіць сястрычку з рук абалелай маці. А яе, за недахоп належнага паслушэнства, да крыві спіша нагайкай. Абітая, паралізаваная схваткамі парадзіха ўсё ж такі дабрыдзе на сваіх нагах да месца расстрэлу. У роўнай, як пад лінейку, калоне!

* * *

Калі карнікі на світанні ўварваліся ў Ражкоўку, адразу назначылі групу з дваццаці мужчын і загадалі капаць роў. У ім, калі трымацца архіўнай статыстыкі, мела памесціцца 264 асобы. Усе тыя жыхары вёскі, што заставаліся па-за назначанымі катэгорыямі, былі прысуджаны да расстрэлу. У народзе гэтае месца завуць ласкава — ямка. Яно няцэлы кіламетр ад вёскі, пры дарозе, што вядзе да шашы Камянец — Амелянец — Пяшчатка.

— Мая цётка расказвалі, як немцы гналі да ямкі, — працягвае расказ Люба Лукашэвіч з Кустаўца. — *А воны старэнькі булі*, — жанчына па старой звычцы называе сваячку ў множным ліку, з пашанай.

І той паліцай, што забег у хату, стаў гергетаць, выганяць на вуліцу. Цётка не схацела ісці. То ён ударыў прыкладам, ажно руку ёй перабіў. Да магілы дачка пацягнула. Ну, ужо іх прыгналі, выстраілі над магілай, стаяць, чакаюць. Кругом кулямёты, немцы. І людзі паставалі, стаяць. Ніхто нічога не кажа, не плача, не крычыць. Ніц! Усе стаяць, чакаюць. Цішыня. Колькі часу яны прастаялі над ямкай — адзін Бог ведае. Усё прапала. Усё сціхла. Слёзы ад страху высахлі...

— А мой бацька бутэльку гарэлкі з сабой у ямку *захіліў*, — прыводзіць сямейны расказ Ліда Ладратава.



І як наблізілася тая пара, што будуць ужо страляць, ён адкрыў бутэльку, хлiснуў і падаў далей. Кожны кульнуў па глытку, перадаў далей, па чарзе... А далей, побач, немец стаіць. Дык мужчыны спыталі ў яго: *А вы будзеце? — Да!* — адказаў ён. І таксама хлiснуў капельку, перадаў далей... А пасля самалёт прылецеў...

— Я гэтага афіцэра, як сёння, пазнала б, — заяўляе баба Люба. Запамятала яго ў час асвячэння новай царквы, як пад парадным эскортам ішоў з іконай...

На самалёце, як паказалі архіўныя запіскі, з'явіўся Альберт Эміль Хербст, маёр Люфтвафэ.

Ён загадаў пачакаць яшчэ дзве гадзіны з расстрэлам.

— *Воны штось там поговорылі*, — прадаўжае ўспамін баба Люба, — *і вун обратно на ліэс політев. А чэрэз два часа вэрнувся і кажэ чэрэз перводчыка: вы освободжоны!* Ён, як ляцеў першы раз, пабачыў у паветры *Мадонэ*... Ну, Божую Маці, — паясняе Люба. — І тая Мадонна, накiравала яго ў Ражкоўку, каб ацаліў ад смерці людзей. Сказала, што мы невінаваты!

Цуд у Ражкоўцы адлюстраваўся ў эйфарыі і касмічных страсцях людзей. Адвячоркам у сяло вярнуліся дзеці, размеркаваныя ўжо па чужых сем'ях у навакольлі. Вярнулася моладзь, назначаная на прымусовыя работы ў Германію. І вярнулі ўвесь канфіскаваны дабытак.

— У вёсцы запанавала такая радасць, што не расказаць, — прыгадвае тыя эмоцыі Люба Лукашэвіч. — Людзі так плакалі, што ў небе было чутна!

* * *

У эйфарыі цуду засталіся непрыкметнымі смяртэльныя ахвяры здарэння, якое адбылося 28 верасня 1942 года. Яшчэ ў той дзень сем чалавек, якіх падазравалі ў супрацоўніцтве з партызанкай, былі вывезены ў Белавеж і расстраляны. У самой Ражкоўцы пайшлі новыя парадкі. Праз некалькі тыдняў у вёску зноў завітаў Эміль Альберт Хербст з выявай-барэльефам Божай Маці. Святы абраз, як патлумачыў афіцэр, узнік на аснове яўлення. Барэльеф Мадонны выразаў мастак, які апынуўся ў нямецкім шпіталі. Ён з дакладнасцю ажыццявіў словы Хербста, улавіў сутнасць і ўсе дэталі цудоўнага яўлення. Падарунак нямецкага маёра спрычыніўся да ідэі пабудовы новай царквы. Узвялі яе вокамгненна, літаральна на працягу некалькіх месяцаў. У якасці матэрыялу паслужыла драўніна са старой сядзібы лесніка.



# Плакалі, што ў небе было чутна! (2)

— І людзі, хто што меў, давалі, дапамагалі, — кажа бацюшка Ігар. — Нехта ахвяраваў матэрыял на свой новы дом, нехта абручальны пярсцёнак...

Царкву асвяцілі 22 студзеня 1943 года ў гонар Казанскай Божай Маці. На архіўных здымках адлюстравана атмасфера свята. Перад сціплай царкоўкай з тоўстых бярвён мора народу. Частка з іх затопленая ў спевах і словах літургіі, якія даходзяць з нутра будынка. Большасць аднак — і гэта ў асноўным мужчыны і дзеці — павернуты да фатографа, пазіруюць. Увагу прыкоўвае драўляная канструкцыя са званом, якая на першы погляд напамінае шыбеніцу... Пра гады акупацыі заяўляе нямецкі жаўнер у доўгім шынялі, зусім не зацікаўлены падзеяй. Ён размаўляе з шафёрам вайсковай машыны, што часткова патрапіла ў правы рог фотаздымка...



— А тут будзе сам Хербст, — айцец Ігар паказвае галоўнага госця ў акружэнні вайскоўцаў і духавенства.

Маёр Люфтвафэ — вялікая фігура не толькі ў міфалагічным сэнсе. На здымках ён перавышае ростам на галаву ўсіх мужчын...

— *Як зара я бы познала того шэфа*, — успамінае з усмешкай Люба Лукашэвіч, — *як нэсе ікону в руках. А по боках по тры поліцыянты красіво оділі, а вун самы відны, посэрэдіны ідэ...*

Люба з раднёй прыйшлі да цёткі ў госці адвячоркам, дзень перад асвячэннем. Памятае, як басанож пераходзілі ўброд ледавітую раку, бо мост ужо сарвалі немцы. Бацькі бралі на плечы малых і пераносілі на другі бераг...

Раніцай Люба разам са сваякамі і народам сустракала ганаровага госця.

Выява Божай Маці, пакуль збудавалі царкву, знаходзілася ў хаце старасты, а афіцыйная перадача святыні адбылася ў дзень асвячэння царквы. Разам з маёрам Хербстам з'явіліся капітан Дэкер і ўнтэр-афіцэр, перакладчык і чалавек СД Отта Ханнеман.

Любе Лукашэвіч пашанцавала дастацца ў сярэдзіну царквы. Бачыла як немцы наблізіліся да царскіх варот, пакланіліся. Хербст паставіў Божую Маці на паліцу ля кліраса. Пасля ўсе вярнуліся, стаялі за прылаўкам, дзе прадаюцца свечкі. Людзі адразу прынеслі ім крэслы:

— *Но воны нэ сядалі. Всі выстоялі службу*, — успамінае з прызнаннем старажылка.

Запамятала яшчэ як пасля багаслужбы Хербст стаяў на парозе хаты старасты. І як ражкоўцы, тыя што засталіся ў жывых, дзякавалі. Яны кланяліся яму да ног і кідалі грошы і падзячныя карткі з імёнамі ацалелых сямейнікаў...

(працяг будзе)

Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960 42